2. Многа паплечнікаў Мухаммеда вывучыла увесь тэкст Кур"ана на памяць.

3. Усе слаўныя паплечнікі Мухаммеда запомнілі фрагменты Святога Кур"ана таму, што мелі абавязак іх чытаць ( пець ) у час малітвы. Колькасць такіх людзей можна ацаніць на падставе таго, што 140 тысяч удзельнікаў наведалі Святыя месцы у час апошняга хаджу Прарока.

4. Значная колькасць пісьменных людзей, якія слухалі Мухаммеда, зберагалі ўласны запіс тэксту і упэўніліся у правільнасці сваіх запісаў, чытаючы іх Святому Прароку.

Ёсць непасрэдная гістарычная праўда, што існуючы сёння тэкст Святога Кур"ана, слова ў слова, дакладны тым самым, што Святы Прарок даў свету як Слова Аллага. Пасля смерці Святога Прарока першы халіф Абу Бакр сабраў усіх, хто ведаў Кур"ан на памяць ( такога чалавека называюць хафіз, паважаюць) і запісы Святога Кур"ана і аформіў іх у кнігу. У час халіфа Усмана ( Асмана ) зроблены копіі з арыгінала і афіцыйна разасланы у сталіцы мусульманскіх краін. Сёння існуюць 2 з тых копій — адна у Стамбуле ( Турцыя ) і адна у Ташкенце ( Узбекістан ). Зацікаўленыя могуць параўнаць кожны экземпляр Святога Кур"ана з тымі двума копіямі і не знойдуць ніякой розніцы. І як жа можна думаць пра якія-небудзь супярэчнасці ці неадпаведнасці, калі было некалькі мільёнаў такіх, хто ведаў Кур"ан на памяць ( хафізаў ) у кожным пакаленні ад часоў Святога Прарока і да нашага часу. Калі б хто-небудзь змяніў хоць слова у арыгінальным тэксце Кур"ана, то хафіз адразу указаў бы памылку.

У 20 ст. у Мюнхенскім універсітэце было сабрана 42 тысячы копій Святога Кур"ана, у тым ліку манускрыптаў і друкаваных тэкстаў, якія паходзяць з розных часоў і розных краін свету. На працягу доўгага часу вяліся даследчыя працы над гэтымі тэкстамі і зроблена выснова, што акрамя памылак пры перапісванні, не было ніякіх супярэчнасцяў у тых 42 тысячах копій, нават калі яны паходзілі з часоў паміж 1 і 14 стагоддзямі Хіджры ( 7 — 20 ст. нашай эры ) і былі сабраныя з усіх краін свету. На жаль, універсітэт гэты быў разбураны у час бамбёжкі у другую сусветную вайну, але вынікі даследаванняў зберагліся.

Дазвол тады на пераход у Іслам даваўся з вялікімі цяжкасцямі, таму і мяшаныя шлюбы здараліся рэдка.

Канстытуцыя Рэчы Паспалітай не забараняла людзям мяняць веру, а 10 красавіка 1931 года адкінуты ўсялякія непаразуменні пры выпадку пераходу у Іслам і, што з гэтага вынікае, мяшаныя шлюбы становяцца падзеяй звычайнай. Хрысціянкі пераходзяць у Іслам ці кальвінізм, мусульманкі ў каталіцтва, а нявесты-мусульманкі больш энергічныя, якія прагнуць застацца пры сваёй веры, атрымліваюць дыспенсію ( дазвол ) ад каталіцкіх улад на шлюб з хрысціянінам у каталіцкім касцеле без змены веры. Былі таксама выпадкі грамадзянскіх шлюбаў на тэрыторыі былога нямецкага забору і за мяжой.

Цікава, што мужчыны-хрысціяне, беручы мусульманак, не змяняюць рэлігію і амаль тое самае можна сказаць пра мужчын-мусульман; было некалькі выпадкаў, калі татарын, каб узяць шлюб, пераходзіў у хрысціянства. З гэтага пункту гледжання жанчына аказалася больш слабай.

Татары, беручы кабет не сваёй веры, крыўдзяць сваіх кабет, якія характарызуюцца высокімі маральнымі якасцямі — праўдзівым скарбам маральнасці і ўсімі правамі для заснавання сям"і. Каб не аказацца у дзеўках-векавухах яны вымушаны выходзіць замуж за хрысціян. Трэба адзначыць, што на духоўныя якасці татарскіх дзяўчат і іх усходнюю прыгажосць хрысціянскія мужчыны даўно звярнулі ўвагу.

На шлюб у касцеле евангелістаў або лютэран дыспенса не патрэбна, патрабуецца толькі, каб адна са шлюбных старон была гэтага вызнання.

Татары тлумачаць мяшаныя шлюбы тым, што пасля вайны новыя граніцы дзяржаў падзялілі татараў на тры групы: пражываючых у Польшчы, Расіі і Літве, і адносіны паміж імі былі перарваныя, прычым мужчыны маюць для выбару абмежаваную колькасць дзяўчат. Трэба яшчэ зазначыць, што людзі маюць зносіны з асобамі з больш-менш аднолькавымі па адукацыі і інтарэсах, аднолькавым таварыскім асяроддзі. Усё гэта яшчэ больш ускладняе выбар дзяўчыны на ўсё жыццё. Некаторыя мужчыны сцвярджаюць, што да сваіх дзяўчат адносяцца як да сясцёр. Гэта тлумачыцца тым, што татарскія сем"і, якія стагоддзямі жылі паміж імі, параднілі іх.

Сустракаючыся пастаянна з дзяўчатамі іншай нацыянальнасці, міжвольна з"уляецца пачуццё, якому пярэчыць не заўсёды чалавек хоча і можа. Вёска бярэ прыклад з горада, і было ўжо некалькі прыкладаў мяшаных шлюбаў па вёсках.

Сцвярджэнне, што прыток свежай крыві папярэдзіць выраджэнне нашай жменькі народу, мае слушныя падставы, але трэба ўзяць пад увагу і бок адмоўны, калі немусульманка, прыняўшы Іслам без пераканання, робіць гэта толькі для таго, каб выйсці замуж, не можа яна ўкласці ў душу дзіцяці ні мусульманскай рэлігіі, бо не ведае, а ні традыцыі народу, якія далі магчымасць завяяваць татарам агульную павагу, але трэба сказаць, што гэта павага ўжо хіліцца ўніз.

Ці шчаслівыя мяшаныя шлюбы ? На гэта пытанне трэба даць станоўчы адказ, бо на некалькі дзесяткаў мяшаных шлюбаў разводаў было толькі некалькі, але інакш і быць не магло, бо пары стваралісія па любові або з пачуцця глыбокай і ўзаемнай сімпатыі.

Калі будуць уведзены грамадзянскія шлюбы, то мяшаныя сем"і стануць з"явішчам штодзённым і выраджэнне татар настане ў прыспешаным тэмпе.

Квартальнік "Байрам" друкуе пераклад навукова-папулярнай працы Гаяза Ісхакі "Ідэль-Урал". Выдатны татарскі пісьменнік, грамадскі і палітычны дзеяч Г.Ісхакі ( кароткая біяграфічная даведка пра яго змешчана ў папярэдгім нумары "Байрама" ) упершыню апублікаваў сваю працу на татарскай мове ў Берліне ( 1933 г. ), затым на рускай і французскай мовах у Парыжы ( 1933 г. ), японскай у Токіо ( 1934 г. ), на польскай мове ў Варшаве ( 1938 год, тут Ісхакі жыў і працаваў ), на рускай мове ў Лондане ( 1988 г. ). У СССР кніга была забаронена і толькі ў 1991 г. на сродкі братоў Кашапавых надрукавана на рускай мове ў Казані. Слова Ідэл — гэта назва ракі Волга па-татарску. Напісанне Ідэль мы захоўваем такім, якім яно было пры жыцці Г.Ісхакі.

## ГІСТОРЫЯ ДЗЯРЖАВЫ ІДЭЛЬ-УРАЛ

### Першы раздзел — Булгары

З візантыйскіх пісьмовых дакументаў вядома, што ў 5 стагоддзі ў межах Прычарнаморскіх стэпаў жылі булгары ( ці болгары ) — народ цюркскага паходжання, і гэта народнасць лічылася роднаснай гунам Атылы. Булгары нясупынна нападалі на Візантыю, якая ў 6 стагоддзі нават плаціла даніну булгарам. Але новая хваля

цюркскіх народнасцей з Алтая прымусіла булгарау разбіцца на асобныя групы. Некаторыя з гэтых груп падпарадкаваліся чужынцам і змяшаліся з імі. Іншыя вымушаны былі перасяліцца. Так, напрыклад, адна галіна накіравалася за Дунай, другая асела на Каўказе і вядома цяпер пад назвай балкар, трэцяя, магчыма самая шматлікая, перакачавала на поўнач і асела на Каме і Ідэлі ( Волзе ).

Аселыя на Каме і Ідэлі булгары, якія завалодалі багатым прыроднымі рэсурсамі краем, стварылі сваю самастойную дзяржаву і дзякуючы вялікаму воднаму шляху лёгка уступілі у зносіны з культурнымі народамі Усходу, пераняўшы шмат чаго з іх культуры і цывілізацыі.

Важакі булгар, якія прывялі іх на Каму і Волгу, паступова ператвараюцца у ханау, адзін з каторых становіцца вялікім ханам, а астатнія падпарадкоуваюцца яму.

У канцы 9 ст. Булгарскае ханства было даволі моцным у эканамічным і палітычным сэнсе з даволі высока развітай культурай. У пачатку 10 ст. заходняй мяжой гэтага ханства былі рэкі Сура і Ака, усходняя мяжа праходзіла па рацэ Яік ( цяпер Урал ) паўночная мяжа недзе у сярэднім цячэнні Камы з яе правымі прытокамі, а паўднёвая межавала з хазарамі, г.зн. даходзіла да Самарскай Лукавіны на Волзе і паўднёвых межау Сімбірскай губ.

Геаграфічныя і эканамічныя умовы спрыялі хуткаму развіццю ханства. Прафесар Смолін у "Археалагічным нарысе Татрэспублікі" ( Матэрыялы па вывучэнні Татарстана, вып. 2, Казань, 1925 г. ) сцвярджае, што "Булгарыя займала тэрыторыю, якая па эканамічных умовах была дастаткова спрыяльнай. Урадлівая глеба дазваляла займацца земляробствам. Цудоуныя паплавы былі добрай пашай для жывёлы, вялікія лясы з добрай драўнінай і паляўнічымі угоддзямі. Лес спрыяу таксама бортніцтву. У рэках было многа рыбы. Рэкі служылі добрымі гандлёвымі шляхамі. Наяўнасць меднай руды і будаунічага каменя завяршалі пералік умоу, якія з"явіліся спрыяльнымі для эканамічнага развіцця Булгарыі".

Знаходкі у археалагічных раскопах частак жалезнага плуга сведчаць, што земляробства у Булгарскім ханстве для свайго часу было добра развіта. Пра гэта сведчаць і апісанні арабскіх падарожнікау аб высокаразвітай прамысловасці гэтага ханства.

Булгарыя славілася гарбарскімі, кушнерскімі ( футравымі ) і рымарскімі вырабамі, якія знаходзілі попыт у замежных краінах

Ганчарныя вырабы ( посуд ) і цэгла былі таксама вядомы булгарам.

Дзякуючы сваім вырабам і выгоднасці зносін на суднаходных рэках Булгарыя зрабілася амаль сусветным ( у маштабе таго часу ) рынкам. Не толькі Усход, але і Поўдзень і Захад імкнуліся заключаць гандлёвыя сувязі з Булгарыяй. Гандлёвыя шляхі з горада Булгара і горада Сувара вялі ў Сярэднюю Азію — г.зн. на Усход; праз усходнеславянскія землі да Балтыйскага мора — г.з. на Захад; і ад Каспійскага мора, а таксама цераз волак ( цяпер тут праходзіць Волга-Данскі канал — заўвага рэд. ) на Дон і па гэтай артэрыі праз Чорнае мора ў Візантыю і Афрыку — г.зн. на Поўдзень. Гэты напрамак добра пазначаны кладамі манет Булгара і Сувара 10 ст., якія знаходзяць сярод усходніх манет эпохі.

Сталіцай Булгарскага ханства быў горад Булгар ці Вялікія Булгары паводле рускіх летапісаў. Руіны гэтага горада знаходзяцца ў Спаскім павеце Казанскай губерні ( цяпер каля сяла Болгары Куйбышаўскага раёна ). Руіны гэтага горада падрабязна не даследаваны ( да 20-х гадоў 20 ст. — заўвага рэд. ). Тым не менш на падставе здабытага матэрыялу можна сцвярджаць, што горад Булгар быў багатым гандлёвым цэнтрам і тут было многа замежных купцоў, якія жылі стала, а таксама часовых ( арабы, персы, славяне, грэкі, габрэі і інш. ) аб чым сведчаць як пісьмовыя крыніцы, так і археалагічныя раскопкі ( магілы, надмагіллі, руіны храмаў і інш. ).

Няма сумнення, што булгары для свайго часу былі культурным народам. Даследчыкі руін Булгара сярод рэшткаў будынкаў знаходзяць сляды цагляных печаў з ганчарнымі трубамі, якія ішлі ад іх. Прызначэнне гэтых печаў яшчэ не высветлена, але некаторыя археолагі лічаць, што гэта былі рэшткі цэнтральнага ацяплення.

Паводле сведчання рускіх летапісцаў булгарскія майстры запрашаліся ў рускія гарады для пабудовы цэркваў і палацаў. Адзін з рускіх князёў назваў булгараў людзьмі ў ботах, а рускіх лапцюжнікамі.

Да 10 ст. булгары былі язычнікамі, але ў 922 г. пры хане Алмасе прынялі Іслам ( язычнікамі былі палякі да 966 г., рускія да 988 г. — заўвага рэд. ). Аднак у старажытным Булгары ўсе рэлігіі карысталіся роўнымі правамі.

У пачатку 13 ст. Булгарскае ханства перастала існаваць як самастойная дзяржава. У 1236 г. яно падпадае пад уладу Залатой

Арды і уваходзіць у склад улуса Джучы.

Хоць гэта падзея на нейкі час і стрымала нармальнае жыццё краіны, але хутка высветлілася, што далучэнне Булгарскага ханства да Залатой Арды мела, галоўным чынам, палітычнае значэнне. У эканамічных адносінах Булгарскае ханства нікольні не пацярпела, а калі і пацярпела, то вельмі нязначна. Гэта тлумачыцца тым, што заваёўнікі належалі да той жа народнасці, што і заваяваныя, г.зн. былі цюркамі ( манголы складалі толькі тонкі вышэйшы слой — арыстакратыю — заўвага рэд. ), а па-другое, новыя правіцелі хутка апынуліся пад культурным уплывам перамоханых. М.І.Вераб"еў, аўтар працы "Матэрыяльная культура казанскіх татараў" з гэтай нагоды сцвярджае: "Сярод гарадскога насельніцтва Булгарыі адбываецца паступовае зліццё былога булгарскага насельніцтва з новымі заваёўнікамі, а ў большасці сваей цюркамі, з слабым уплывам манголаў — арыстакратамі. Таму гарадская культура Булгарыі часоў татарскага заваявання з"яўляецца прамым прадаўжэннем такой жа эпохі самастойнасці, толькі ўсходні ўплыў, бадай, яшчэ больш вольна уліваецца ў край, дзякуючы палітычнаму аб"яднанню вялізнай тэрыторыі імперыі Чынгіза " ( стар. 20 ). Адначасова з гэтым самі булгары ў сваю чаргу пераймаюць вельмі многае ад чужынцаў і ў выніку гэтага ўзнікае народ, які выступіў пазней на арэну пад назвай "казанскіх татараў". Чаму і адкуль атрымалася гэта назва — пытанне, да якога мы вернемся ў далейшым.

Такім чынам, на падставе сказанага раней мы бачым, што паўночная частка Ідэль-Урала, г.зн. прастора ад ракі Суры да Самарскай Лукавіны, здавён была заселена народамі цюркскага паходжання. Разглядаючы паўднёвую частку Ідэль-Урала, г.зн. ад Самарскай Лукавіны да Каспійскага мора, маючы на захадзе Волгу, а на усходзе Туркестан, мы бачым таксама з гісторыі, што і гэтая частка Ідэль-Урала з даўніх часоў належала цюркам.

( працяг будзе )

# СЛОЎНІК ЭНЦЫКЛАПЕДЫЧНАГА ДАВЕДНІКА "ТАТАРЫ БЕЛАРУСІ, ЛІТВЫ І ПОЛЬШЧЫ"

Складзены на падставе даведнікаў і манаграфічнай літаратуры. Вялікія літары абазначаюць скарочанае імя і прозвішча (ці прозвішчы) аўтараў манаграфій, лічбы -- старонку, адкуль тэрмін узяты.

БД -- Пётр Бараўскі і Аляксандр Дубіньскі "Польскія татары. Гісторыя, абрады, легенды, традыцыі", 1986;
ЯТ -- Ян Тышкевіч "Татары ў Літве і Польшчы", 1989;
АМ -- Алі Міськевіч "Польскія татары 1918-1939", 1990;
Г -- Зыгмунт Глогер "Ілюстраваная старапольская энцыклапедыя", Т. І-4, 1958.

## Г

Г, літара
ГАБА, ад арабскага слова аба, тоўстае белае сукно, Г, Т. 2, 226
ГАБРЭІ, АМ 151
ГАВ'Е, першае пекла
ГАДЖА Мурзіч, кады (кадзі) у ВКЛ, ЯТ 292
ГАДЖЫБЕЙ, эмір, гл. у арт. Залатая Арда
ГАДЖЫ ГІРЭЙ, хан, БД 131 — 135, 161, 198
ГАДЗІД, аль-Гадзід, аль-Хадзід, 57-я сура з Кур'ана
ГА ЖОЎ ВЕЛЬКАПОЛЬСКІ, БД 171
ГАЖОЎСКА-ВЕЛЬКАПОЛЬСКІ ДЖАМІЯТ, АМ 167
ГАЗАВАТ, вайна з няверньмі
ГАЗЕЙСТВА, удзел у газавеце
ГАЗІ, газей, той, хто ваюе з няверньмі
ГАІН, назва літары Г
ГАЙ, выклічнік
ГАЙБ, ал-Гайб, недасягальная боская тайна
ГАЙБЕТ, ядомая расліна, якую ў час Мірадҗу знайшоў Мухаммед. Значэнне слова страчана
ГАЙДА, турэцкая дудка, флейта, Г, Т. 2, 334
ГАЙДАМАКІ, назва запарожскіх казакоў, Г, Т. 2, 229
ГАЙДУК, Г, Т. 2, 230
ГАЙДЫ, выклічнік
ГАККА, аль-Гакка, 69-я сура з Кур'ана

ГАЛІЦКАЯ РУСЬ
ГАЛЬМА, татарская страва, БД 258
ГАНДАЛЬ, Г, Т. 2, 232
ГАНІМА, ваенная здабыча
ГАРАДЗІШЧА, гар. пасёлак у Баранавіцкім раёне, АМ 59
ГАРАДСКІЯ ТАТАРЫ, простыя татары, ЯТ 216; БД 55
ГАРАДЫ (з татарскім насельніцтвам у значнай колькасці), Г, Т. 2 222-254
ГАРАЧ, гарадж, падатак, які плацілі мусульмане за зямлю, пагалоўны падатак, ЯТ 239
ГАРБАРСТВА, ЯТ 225, 226, 229, 232, 234, 235, 240, 241, 245, 252, 263, 264, 269, 271, 272, 309, 310; АМ 66, 69
ГАРГАРА, гаргарэ, гаргарэй, паласканне вуснаў
ГАМЗА, надрадковы значок у арабскай графіцы
ГАРУН, Аарон, прарок
ГАРЭМ, закрыванне твару маладой у час шлюбу
ГАРЭМ, памяшканне для жанчын
ГАСІЯ, аль-Гасія, 88-я сура з Кур'ана
ГАСПАДАР, гл. Спадар, Г, Т - 257
ГАСПАДАРСКІЯ ТАТАРЫ, ЯТ 160, 161, 189, 196, 197-200, 216-221, 258-260, 266, 274
ГАСР, аль-Гаср, 59-я сура з Кур'ана
ГАСЦІННАСЦЬ, Г, Т. 2 207
ГАЎРЫЛА КАМБУЛАТАВІЧ, чаркескі князь на службе ў ВКЛ, БД 16
ГАФФР, адно з імёнаў Аллага
ГДАНЬСКАЯ МЯЧЭЦЬ
ГДАНЬСКІ ДЖАМІЯТ, АМ 167, 168; БД 171
ГЕ, назва літары Г
ГЕГІРА, гл. Хіджра
ГЕДЫМІН, Г, Т. 2 113-115, 117
ГЕЙНАЛ, венгерск. хайнал - пабудка, Г, Т. 2 241
ГЕКІМ, хакім, вучоны, доктар, мудрэц
ГЕМЗЭ, гемзе, гл. Гамза
ГЕММЭТ, геммет, здзяйсненне жаданняў
ГЕРБЫ ТАТАРСКІХ РОДАЎ, БД 160
ГЕРГАРЭ, гл. Гаргара
ГЕРМАК, ярмяк, армяк, Г, Т. 2 185
ГЕТМАН, ад цюркскага атаман, Г, Т. 2 248

## Д

Д, літара
ДАББАТУЛЕРД, звер, які з'явіцца перад Судным Днём
ДАБРУДЖА, гістарычная вобласць у Прычарнамор'і на тэрыторыі
сучаснай Румыніі і Балгарыі
ДАБРУДЖЫНСКІЯ ТАТАРЫ, мелі цесныя сувязі з літоўскімі татарамі
ДАДЖАЛ, даджалал, слова праклядцця
ДАВУД, Дауд, Давід, прарок
ДАД, назва літары, якая азначае цвёрды гук Д
ДАЛ, назва літары Д
ДАЛАВАР, дуалар, сувой з малітвамі, БД 178
ДАЛАЛ, хібны шлях, памылка
ДАЛАМАН, верхняе адзенне, Г, Т. 2 10
ДАМБРОВА БЕЛАСТОЦКАЯ, мястэчка у Польшчы, АМ 59
ДАММА, значок над арабскай літарай
ДАНІНА КРЫМСКАМУ ХАНУ, ЯТ 167
ДАЛ ал-ІСЛАМ, краіны, у якіх кіруюцца шарыятам
ДАР ас-СУЛХ, тэрыторыя дамовы
ДАР ал-ХАБР, тэрыторыя перамір'я
ДАРУЛЬКАРАР, сёмы рай
ДАРУССЯЛЯМ, другі рай
ДАРЫЯ, пякельная страва
ДАТ, літара, якая абазначае гук Д
ДАЎБУЦІШКАЎСКАЯ ДЖАМІЯ, з 18 ст., БД 61, 154
ДАЎБУЦІШКІ, татарская вёска, БД 61; АМ 59; ЯТ 236, 286
ДАЎГЯЛЫ, татарскі княжацкі род у ВКЛ
ДАХР, век
ДАХРЫЙА, ад-Дахрыйа, матэрыяліст, які не верыць у Бога
ДЖАБАГІ Гірэй Вассан, журналіст, АМ 92, 94, 134, 179
ДЖАБАГІ-СКІБНЕЎСКАЯ Джанет, удзельніца вайны з немцамі ў
1939 г., паручык, АМ 166
ДЖАБРЫЛ, Джабраіл, Джэбраіл, гл. Джыбрыл, архангел
ДЖАВАБ, джэваб, значэнне слова страчана
ДЖАВАХЕР, каштоўны камень (дыямент, алмаз)
ДЖАГЕННЕМ, джахеннем, пекла
ДЖАГІЛЬ, джагілін, неразумны
ДЖАГІМ, джэгым, тое, што джагеннем
ДЖАЗІМ, выклічнік

ДЖАЙМА, татарская страва, БД 58
ДЖАЙХУН, назва ракі
ДЖАЛАІРСКАЕ ХАРУНЖАСТВА, Ялаірскае харунжаства, БД 208
ДЖАЛАЛ эд-ДЗІН, ваеначальнік і удзельнік Грунвальдскай бітвы, сын Тахтамыша, ЯТ 125, 159
ДЖАМАЗІЛЬ АХЫР, назва сёмага месяца, гл. Джумада аль-ахіра
ДЖУМАЗІЛЬ ЭВВЕЛЬ, назва шостага месяца, гл. Джумада аль-Уля
ДЖАМЕЕЦЬ, уся парафія, гл. Джаміят
ДЖАМІЯТ, мусульманская парафія, прыход, БД 110, 153-154
ДЖАМІЯ, мячэць
ДЖАНАЗЕ, джаназа, джэназе, малітва за памерлага на мізары ці каля мячэці, БД 194
ДЖАНДУСЬ, джэндус, мянушка
ДЖАНІБЕК, царэвіч, гл. у арт. Крымскае ханства, ЯТ 113, 118, 136, 214
ДЖАНІБЕК, хан Залатой Арды
ДЖАННА, ал-Джанна, найбольш пашыраная назва раю
ДЖАННЕТ, джэннет, рай
ДЖАННЕТ АДНІН, джэннет аднін, восьмы рай
ДЖАННЕТ-уль-ННАНІМ, Джэннет-уль-ннанім, пяты рай
ДЖАННЕТ-уль-МАВА, Джэннет-уль-Мава, трэці рай
ДЖАННЕТ-уль-ФІРДЭВС, Джэннет-уль-Фірдэвс, шосты рай
ДЖАННЕТ-уль-ХУЛЬД, Джэннет-уль-Хульд, чацвёрты рай
ДЖАХІННЕМ, джэхіннем, пекла ("ідзі да пекла")
ДЖАН, душа
ДЖАХЕННЕМ, гл. Джагеннем
ДЖАУН, вайсковая адзінка (сотня воінау), БД 211
ДЖАХІЛІЯ, аль-Джахілія, эпоха язычніцтва
ДЖАЦІЯ, аль-Джація, 45-я сура з Кур'ана
ДЖЫРДЖЫС, персанаж мусульманскіх паданняу
ДЖУБА, джубэ, адзенне імама
ДЖУМА, джумс, пятніца
ДЖУМА, аль-Джума, 62 сура з Кур'ана
ДЖУМА НАМАЗ, пятнічнае маленне у мячэці, БД 188
ДЖУМАДА-аль-АХІРА, сёмы месяц
ДЖУМАДА-аль-УЛЯ, шосты месяц
ДЖУНІБ, джунуб, палавыя зносіны
ДЖУЧЫ, хан, БД 212
ДЖЫБРЫЛ, архангел Гаурыіл

ДЭЛЬЯ, сукня, тканіна, Г, Т. 2 90
ДЭМЕШКА, турэцкая шабля, Г, Т. 2 312
ДЭРВІШ, убогі, манах
ДЭРВІШ-ХАН, гл. у арт. Залатая Арда
ДЭРУДЗЫ, дэрухачы, чыноўнік хана накшталт баскака, ЯТ 95
ДЭЎЛЕТ БЕРДЭ, хан, гл. у арт. Залатая Арда
ДЭШТ-І-КЫПЧАК, адна з назваў Залатой Арды

Е

Е, літара
ЕВА, гл. Хава
ЕГУДЧЫК, габрэй
ЕДЫГЕЙ, эмір, ЯТ 124, 125, 127, 129, 158, 300
ЕЗЕКІЛЬ, прарок, гл. ЗУ аль-Кіфаль
ЕК, не, няма
ЕКУБ, гл. Якуб
ЕКСЕНБЕ, нядзеля
ЕЛІЗЕЙ, прарок, гл. Яса, аль-Яса
ЕЛЬЯШЭВІЧ Аляксандр, ротмістр татарскага эскадрона, АМ 71, 156-157, 166; БД 181
ЕНІ-ШЭГРЫ, татарская назва Навагрудка, БД 60
ЕРЭМФЕРДЭН, хан, гл. у арт. Залатая Арда
ЕСАВУЛ, ассавул, Г, Т. 2 206
ЕТМУШ, лік 70
ЕТЦЫ, малітва пасля змяркання

Ж

Ж, літара
ЖАВІСТА, жэвіста, значэнне слова страчана
ЖАЛОБА, БД 178
ЖАЛОБНАЯ ВЯЧЭРА, стыпа, пасля пахарон і на угодкі, БД 195
ЖАНЧЫНА, яе статус, АМ 151
ЖДАНОВІЧ, татарскі князь у ВКЛ
ЖДАНОВІЧ Якуб, імам
ЖОДЗІШКІ, татарская вёска у Літве, БД 166
"ЖЫЦЦЕ ТАТАРСКЕ", квартальнік "Татарскае жыццё" у Польшчы да 1939 г., БД 158; АМ 135, 137, 138
ЖЭ, назва літары, якая азначае гук Ж

## ПРОБНЫЯ АРТЫКУЛЫ ДЛЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЧНАГА ДАВЕДНІКА "ТАТАРЫ БЕЛАРУСІ, ЛІТВЫ І ПОЛЬШЧЫ"

АБ'ЯДНАНЫЯ АРАБСКІЯ ЭМІРАТЫ, Імарат аль-Арабія аль-Муттахіда, ААЭ, дзяржава у Паўднёва-Заходняй Азіі, на усходзе Аравійскага паўвострава, каля берагоў Персідскага і Аманскага заліваў. Плошча 83,6 тыс. кв. км. Насельніцтва 1,84 млн. чалавек (1990). Гарадское насельніцтва складае 84%. Найбольшыя гарады (нас. на 1985 г., у тысячах): Абу-Дабі (часовая сталіца) 350, Дубай 330, Эль-Айн 150, Шарджа 120. Карэннае насельніцтва (арабы) - 31%, астатнія выхадцы з іншых арабскіх краін, з Індыі, Пакістана, Ірана, Бангладэш і інш. Афіцыйная мова — арабская. Дзяржаўная рэлігія — Іслам (суніты і шыіты).

ААЭ складаецца з 7 эміратаў-манархій — Абу-Дабі (пл. каля 60 тыс. кв. км), Дубай, Аджаман, Ум-эль-Кайвайн, Рас-эль-Хайма, Эль-Футджайра і Шарджа. Глава дзяржавы - прэзідэнт, якога выбіраюць на 5 гадоў з ліку эміраў. Вышэйшы заканадаўчы орган — Вышэйшы Савет Эміраў.

Прырода. Пераважаюць нізінныя раўніны, на усходзе адгор'і гор Хаджар (вышыня да 1127 м), на Захадзе — камяністыя пустыні. Клімат субтрапічны і трапічны сухі. Год падзяляецца на 2 пары: зімовую (дажджлівую) і лета (сухую). За год выпадае 100-400 мм ападкаў. Значныя плошчы займаюць саланчакі і пясчаныя пустыні. Рэдкія аазісы з фінікавай пальмай, акацыяй, тамарыскам. Фауна: газель, зайцы, паўзуны (пераважна змеі).

Берагавая лінія Персідскага і Аманскага заліваў мала парэзаная. Прыбярэжныя воды Персідскага заліва багатыя на каралавыя рыфы і мелкаводдзі, на якіх водзяцца малюскі, што зрэдку у ракавінах маюць жэмчуг (перлы). У прыбярэжных водах водзіцца да 50 відаў рыб. Краіна багатая на нафтавыя радовішчы і гаручы газ.

Гаспадарка. У сельскай гаспадарцы скарыстоўваецца невялікая плошча ворных зямель і штучных насаджэнняў (усяго каля 7% тэрыторыі). Бедныя пустынныя пашы для вярблюдаў. Лоўля рыбы, здабыча губак, каралаў, жэмчугу. У аазісах вырошчваюць фінікавую пальму, садавіну і агародніну, збожжавыя культуры.

Аснова эканомікі і паступлення сродкаў — нафта- і газаздабываючая прамысловасць (да 100 млн. тон нафты і каля 10 млрд.куб.м газу у год). Частка нафты перапрацоўваецца на месцы (заводы ва

Ум-эн-Нары, у раёне Рувайса — Абу-Дабі), металургічныя і метала-апрацоўчыя прадпрыемствы, цэментны завод. Традыцыйны занятак насельніцтва — рыбалоўства (улоў каля 60 тыс. т у год), здабыча жэмчугу, аазіснае земляробства і качавая жывёлагадоўля. Кустарныя промыслы (ткуць дываны, шарсцяныя тканіны, чаканка).

Чыгунак няма. Асноўны від транспарту — аўтамабільны. Дарог з цвёрдым пакрыццём 2,3 тыс. км (1985), аўтамабільны парк — 500тыс. машын. Марскі транспарт, асноўныя порты: Зейд (Абу-Дабі), Рашыд (Дубай) і Міна-Халед (Шарджа). Танаж марскога гандлёвага флоту 0,7 млн. брута-тон. Аэрапорты міжнароднага значэння ў Абу=Дабі, Дубай, Шарджы. Асноўныя знешнегандлёвыя партнёры: Японія (больш за 60%), Вялікабрытанія, ЗША, Францыя, ФРГ і інш. Грашовая адзінка — дырхам.

Гісторыя. У дагістарычныя часы тэрыторыю ААЭ займалі семіцкія плямёны, звязаныя з дзяржавамі Двурэчча. У І-м тысячагоддзі да нашай эры тут замацаваліся арабскія плямёны. У 7-м стагоддзі гэта тэрыторыя апынулася пад уплывам Ісламу і ўвайшла ў Арабскі халіфат. У час праўлення дынастыі Аббасідаў некалькі шэйхатаў сталі незалежнымі. На мяжы 9 і 10 стагоддзяў цяперашнія тэрыторыі Абу-Дабі, Дубай, Шарджы і Ум-эль-Кайвайн увайшлі ў склад дзяржавы карматаў. Астатнюю тэрыторыю падпарадкавалі сабе імамы з Амана.

З 13 да 16 ст. шэйхаты сучасных ААЭ трапілі ў залежнасць ад Маската і Амана, пазней персідска-мангольскай дзяржавы Гармуза. У пачатку 16 ст. у раёне Персідскага заліва паявіліся партугальцы. У 1515 г. яны падпарадкавалі сабе ўсё ўзбярэжжа Персідскага заліва. У 2-й палавіне 16 ст. у барацьбу за гэту тэрыторыю ўступіла Турцыя, а пад канец 17 ст. — Вялікабрытанія.

У пачатку 18 ст. усходнюю і паўднёва-усходнюю Аравію падпарадкаваў сабе Аман, які стаў даволі моцнай дзяржавай. У выніку падрыўной дзейнасці Вялікабрытаніі гэта дзяржава распалася, хоць барацьба супраць англічан не спынялася. Арабы нападалі на англійскія судны ў водах Персідскага заліва, небяспечных для плавання сярод каралавых рыфаў. Гэту небяспечную краіну англічане назвалі "Пірацкім Берагам".

Напрыканцы 18 ст. шэйхаты "Пірацкага Берага" атрымалі падтрымку вахгабітаў — барацьбітоў за чысціню Ісламу. У 1809 г. англічане з дапамогай саюзнага ім Амана разбілі вахгабітаў і антыанглійскія сілы "Пірацкага Берага".

Да 1820 г. англічане некалькі разоў прадпрымалі экспедыцыі супраць "Пірацкага Берага". Нарэшце, у выніку дамовы з шэйхамі, англічане падпарадкавалі сабе "Пірацкі Бераг" і з 1853 г. замянілі назву на Дагаворны Аман. У 1892 г. паміж Англіяй і Дагаворным Аманам было падпісана нераўнапраўнае пагадненне, паводле якога толькі Англія мела тут права на здабычу губак, жэмчугу, а пазней і нафты.

Пасля другой сусветнай вайны ў гэтым раёне ўзмацнілася барацьба супраць англійскага панавання. 2.12.1971 эміраты абвясцілі аб сваёй палітычнай незалежнасці ад Вялікабрытаніі і сталі суверэннай дзяржавай.

АБУ ЛАХАБ, мянушка Абд ал-Уззы бен Абд ал-Мутталіба (сярэдзіна 6 ст. — 624), дзядзька і адзін з зацятых ворагаў Мухаммеда. Спачатку прыязна ставіўся да Мухаммеда. Пасля таго, як Абу Лахаб стаў на чале рода хашымітаў і абвяшчэння Прарокам новай рэлігіі — Ісламу, Абу Лахаб і яго жонка Умм Гаміль адкрыта праявілі сваю варожасць да свайго пляменніка Мухаммеда. У выніку гэтага Мухаммеду і яго паплечнікам прыйшлося пакінуць Мекку і перасяліцца ў горад Медыну (гл. Хіджра). За праследаванне Мухаммеда і паслядоўнікаў новай рэлігіі — Ісламу дзядзька Мухаммеда Абд ал-Уззы бен Абд ал-Мутталіб атрымаў мянушку Абу Лахаб — "бацька полымя", "той, хто жыве ў полымі". Пра Абу Лахаба гаворыцца ў Кур'ане, у III-й суры — Масад. Памёр Абу Лахаб неўзабаве пасля бітвы пад Бадрам. Будучы старым і хворым удзелу ў гэтай бітве ён не прымаў. Сыны Абу Лахаба ў 630 г. прынялі мусульманскую веру.

АДЛ, катэгорыя маральнай ацэнкі асобы, якая характарызуецца справядлівасцю і праўдзівасцю. Чалавек, якому ўласцівы адл, здольны заўважыць і адхіліць зло (джаур) і фальш. Філосаф і тэолаг ал-Газалі (1058-1111) разглядаў паняцце адл у пары з паняццем іхсан (шчырасць, сумленне), бо гэта спалучэнне набывае сэнс "справядлівасць і сумленне". Мяркуецца, што адл уласцівы кожнаму чалавеку, які імкнецца на дзяржаўную ці грамадскую пасаду, а таксама выконваць іншыя функцыі, як апякунства, параку, сведчанне і інш.

Кожны мусульманін, калі ён не робіць непрыстойнага (фіск, джаур) і забароненыя учынкі (гл. Харам), разглядаецца як адзіл, г.зн. ён мае адл. Той, хто страціў гэтую вартасць, можа загла-

дзіць віну (каффара) і пасля гэтага жыць як мусульманін.

У Кур'ане адл разглядаецца як адна з якасцей Аллага, які адплачвае роўнай мерай як за дабро, так і за зло. Аднак адл Аллага — гэта вышэйшая справядлівасць, немагчымая для разумення чалавека, таму чалавек можа звяртацца да Аллага толькі па міласэрнасць.

АЛЛЯ, Аль-Алля, 87-я сура з Кур'ана. Складаецца з 19 аятаў. Названа ад слова ў 1-м аяце і абазначае Найвышэйшы — адно з імёнаў Аллага. Першыя аяты — праслаўленне Аллага — Стваральніка усяго існага. Далей гаворыцца пра кару для тых, хто не верыць у прарочую місію Мухаммеда, і аб узнагародзе тым, каторыя прымаюць слова Аллага. Апошнія аяты напамінаюць, што часовае жыццё на гэтым свеце не павінна быць марным і нельга спакусы і уцехі на гэтым свеце прамяняць на харошае і вечнае жыццё, якое будзе даравана Аллагам праведнікам. Аб гэтым сказана было і ў пісанні прарокаў Ібрагіма (Аўраама) і Мусы (Майсея).

АХМАД, Мірза Ахмад (1835, Кадзіян у Індастане — 1908). Заснавальнік і прапаведнік рэлігійнай абшчыны. У 1884 г. ён апублікаваў шматтомную багаслоўскую працу. Паводле слоў Ахмада, у 1882 г. ён быў упаўнаважаны Аллагам палепшыць свет, а ў 1889 г. стварыў ахмадзійскі джамiят (абшчыну). Яго вучэнне (гл. Ахмадзія) знайшло некаторае пашырэнне ў Пакістане, у іншых краінах Азіі і усяго свету. Ахмадзійцы налічваюць 10 млн. сваіх паслядоўнікаў, паводле іншых дадзеных — 1 млн. Ёсць невялікая колькасць ахмадзійцаў у Літве, Польшчы і на Беларусі.

Ахмад з'яўляецца аўтарам больш за 80 кніг, напісаных на мове урду і арабскай. Ахмад лічыў сябе прарокам Аллага і заяўляў: "Я лепшы за усіх прарокаў і пасланнікаў. Клянуся Аллагам, які зрабіў з мяне Месію, якога чакалі людзі. Хто не верыць у мяне, той не верыць у Аллага і яго прарокаў".

АХМАДЗІЯ, кадзіяні, вучэнне, выкладзенае ў багаслоўскіх працах Ахмада. У карацейшым выглядзе гэтае вучэнне на англійскай мове перадаў Махмуд Алі ў каментарыі да англійскага перакладу Кур'ана. Паводле гэтага вучэння апошнім прарокам — пасланнікам Аллага — з'яўляецца Ахмад. Галоўнымі аб'ектамі паланніцтва павінны быць Кадзіян — радзіма Ахмада (адсюль і назва новага вучэння — ка-

дзіяні) і горад Срынагар (у Кашміры), дзе, паводле Ахмада, быў пахаваны Ісус Хрыстос, які ўваскрос пасля смерці ў Іерусаліме, доўга жыў як Ісус Асар у Індастане. Ахмадзія інакш трактуе памер закята, чым гэта прынята здаўна ў мусульман. Звычайна штогод мусульманін аддае на карысць абшчыны 2,5% ад свайго прыбытку. Паводле ахмадзіі трэба штогод плаціць 2,5% ад кошту маёмасці, што ў многа разоў больш. Ахмадзія катэгарычна адмаўляе збройную барацьбу з крыўдзіцелямі, у тым ліку і барацьбу за веру — джыхад. Згодна з вучэннем Ахмада чалавек пасля смерці атрымлівае новую душу да Суднага Дня, затым згодна з заслугамі трапляе ў рай, ці ў пекла. Пякельныя мукі не вечныя: грэшнікі, якія дастаткова нацярпеліся ў пекле, могуць быць перасэлены ў рай. Замагільнае жыццё разглядаецца як працяг духоўнага ўдасканалення, распачатага чалавекам пры жыцці на зямлі. У ахмадзійскім вучэнні спалучаюцца элементы мусульманскай, хрысціянскай, іудзейскай і індуісцкай (крышнаісцкай) веры. Аб'ектыўна ахмадзія накіравана на аслабленне Ісламу, асабліва ў краінах былога СССР, дзе на працягу многіх гадоў мусульманская вера была ў загоне і людзі толькі прыблізна ведалі асновы сваёй веры. Ахмадзійцы актыўна займаюцца выдавецкай дзейнасцю, укладваюць грашовыя сродкі ў будаўніцтва мячэцяў, займаюцца камерцыяй, палітыкай. Яны імкнуцца прыцягнуць як мага больш вернікаў, асабліва з ліку нестойкіх мусульман-суннітаў, да якіх належаць і беларускія татары.

У многіх мусульманскіх краінах ахмадзія не лічыцца мусульманскай абшчынай. Ліга мусульманскага свету (Рабіта аль-алм ал-Ісламі) абвясціла (1973) ахмадзію варожай Ісламу плынню.

АЯТ (мн. лік ад арабскага слова ая — знак, цуд), у беларускіх татараў называюць аят; найменшы вылучаны ўрывак з Кур'ана, верш (сціх). Зыходнае значэнне тэрміна ая (аята) -- знаменне, цуд. Пасля паяўлення пісанага тэксту Кур'ана тэрмін ая пачаў паступова ўжывацца для абазначэння кур'анічных вершаў, якія напісаны рытмічнай прозай.

У Кур'ане, па розных падліках 6204, 6226, 6232 ці 6236 аятаў. Існуюць дзве нумарацыі аятаў: еўрапейская і новая егіпецкая (1928). Асобныя аяты скарыстоўваюцца ў афармленні мячэцяў, інтэр'ераў афіцыйных устаноў і жылых дамоў мусульман (гл. Мугір).

БАДР, Бадр Гунайн, невялікі горад у Саудаўскай Аравіі за 150 км на паўднёвы захад ад Медыны, на караванным шляху з Меккі

у Сірыю. У 6-7 ст. Бадр быў значным гандлёвым цэнтрам. Каля Бадра на раўніне, акружанай стромкімі ўзвышшамі і пясчанымі выдмамі, адбылася бітва мусульман, якіх узначальваў Мухаммед, і язычнікаў пад началам Абу Джахла.

15 ці 17 сакавіка 624 г. воіны Мухаммеда (мухаджыры і ансары) авалодалі студнямі з прэснай вадой каля Бадра і збіраліся пачаць бой с аховай вялікага каравана язычнікаў з Меккі, які вяртаўся дамоў, але караван прайшоў іншай дарогай, а змагацца давялося з вялікімі сіламі язычнікаў, якія прыйшлі з Меккі. У праціўнікаў мусульман было 950 ці 750 добра ўзброеных воінаў, сярод якіх было 200 вершнікаў. У Мухаммеда было 76 мухаджыраў — мусульман, якія ў час хіджры перасяліліся з Меккі ў Медыну. Удзел у бітве прынялі каля 240 ансараў — мусульман, якія прынялі Іслам у Медыне.

Нягледзячы на няроўныя сілы, мусульмане, выслухаўшы прамову Мухаммеда, рашуча уступілі ў бой. Ворагі-язычнікі былі разбіты, загінуў іх военачальнік Абу Джахл і каля шасцідзесяці яго воінаў. Многа было параненых і тых, хто здаўся ў палон. Мусульмане страцілі ў гэтым баі 6 мухаджыраў і 9 ансараў, якія былі пахаваны з гонарам як барацьбіты за веру.

Перамога мусульман пад Бадрам мела вялікае значэнне для росту аўтарытэта Мухаммеда і новай рэлігіі-- Ісламу. Пра гэту пераможную для мусульман бітву ўпамінаецца ў Кур'ане (8-я сура -- Анфаль, аль-Анфаль). Перамога мусульман над язычнікамі тлумачыцца цудам, які стварыў Аллаг і ён падобны да таго цуду, які быў праяўлены Богам пры пераправе габрэяў цераз Чырвонае мора, калі іх праследавала войска егіпецкага фараона.

Удзельнікі бітвы пад Бадрам сталі найбольш паважанымі паплечнікамі (асхабамі) прарока Мухаммеда.

ВІТАЎТ, Вітаўтас Юрый Аляксандр (каля 1350, магчыма Старыя Трокі — 27.10.1430, Трокі), вялікі князь Вялікага княства Літоўскага (ВКЛ) з 1392 г. Сын вялікага князя Кейстута. Падтрымліваў бацьку ў яго барацьбе з Ягайлам. Абодва ў 1382 г. былі зняволены Ягайлам і знаходзіліся ў замкавай турме ў Крэве (цяпер вёска ў Смаргонскім раёне на Беларусі). Па загаду Ягайлы Кейстут быў задушаны, а Вітаўту удалося уцячы і знайсці прытулак у крыжакоўтэўтонаў. З дапамогай крыжакоў і пры падтрымцы паплечнікаў свайго бацькі Кейстута Вітаўт імкнуўся вярнуць сабе радавое Трокскае княства. У 1382 г. Ягайла вярнуў яму частку гэтага княства і Ві-

таут вярнууся на радзіму. Вітаут ухваліу Крэускую унію Літвы з Польскім каралеуствам (1385). Пасля няудалай спробы у 1389 г. захапіць Вільню Вітаут зноу вымушаны шукаць прытулку у крыжакоу. У пошуках саюзнікау у 1390 г. Вітаут выдау сваю дачку Соф'ю замуж за вялікага князя маскоускага Васіля І Дзмітрыевіча. Па Востраускаму пагадненню (1392) з Ягайлам фактычна стау вялікім князем. Шляхам замены удзельных князёу намеснікамі з дваран (непаслушнага намесніка можна прагнаць з пасады у любы час) Вітаут умацавау сваю уладу у дзяржаве. Ён пашырау каталіцкую веру (разам з Ягайлам у 1413 г. кіравау хрышчэннем жамойтау), пашырау землеуладанні дваран, каталіцкай царквы. Вольных сялян ператварау у залежных.

Захопніцкія імкненні Вітаута на усход і абарона заходніх рубяжоу на захадзе было цяжка сумяшчаць і па Салінскай дамове (1398) з вялікім магістрам Тэутонскага ордэна Конрадам фон Юнгінгенам прыйшлося уступіць крыжакам Жамайцію да ракі Нявежыс і палавіну Судуускага края (Занямонне). Жамайты вызваліліся у 1409 г.

У 1397 і 1398 Вітаут пры удзеле хана Тахтамыша, які быу прагнаны з трона у Залатой Ардзе эмірам Цімурам (Цімурленгам), зрабіу паходы у Прыазоуе і Крым (гл. Вітаута паходы у 1397 і 1398) і далучыу да ВКЛ частку зямель Пауночнага Прычарнамор'я. ВКЛ замацавалася у Падоліі і на важным міжнародным гандлёвым шляху на Прычарнамор"і, аднак у 1399 г. войска Вітаута і яго саюзніка Тахтамыша было разбіта войскам Залатой Арды у бітве пры р.Ворскла (гл. Ворскла). У 1404 г. Вітаут далучыу да ВКЛ Смаленскае княства, у 1406, 1407 і 1408 зрабіу ваенныя паходы на вялікае княства Маскоускае, з якім у 1408 г. была заключана Угорская дамова, што дало магчымасць Літве пачаць падрыхтоуку да вайны на захадзе з Тэутонскім ордэнам.

У 1409 г. Вітаут і Ягайла дамовіліся з сынам хана Тахтамыша Джалалам эд-Дзінам аб удзеле татарау у магчымай вайне з крыжакамі. У выпадку перамогі кароль і вялікі князь абяцалі Джалал эд-Дзіну узвясці яго на ханскі пасад у Залатой Ардзе.

У 1410 г. Вітаут узначаліу войска ВКЛ і Польшчы у пераможнай Грунвальдскай бітве, пасля чаго пагроза Літве са стараны крыжакоу мінавала. Найбольшую ролю і найбольшыя ахвяры у барацьбе з крыжакамі прыняслі воіны з беларускіх зямель. Вайна з Тэутонскім ордэнам і яго саюзнікамі завяршылася Мельнскім мірам (1422), па якому Ордэн адмовіуся ад прэтэнзій на Жамойцію і Занёманне. Ві-

таут устанавіў добрасуседскія адносіны з Наўгародскай рэспублікай. Пад яго уплывам былі крымскія татары, а ханы Залатой Арды шукалі і знаходзілі падтрымку ў ВКЛ.

У 1428 г. Вітаут наведаў Менск. Сярод тых, хто яго вітаў, былі і татары, якія, магчыма, тут жылі, ці ў наваколлі. Татары падаравалі свайму спадару — Вітаўту коней, вярблюдаў, зброю, упрыгожанні і гавяду для харчавання княжацкай дружыны.

У 1429 г. з'езд вялікіх феадалаў, духавенства ВКЛ Польшчы, манархаў і іх прадстаўнікоў замежных дзяржаў прыняў рашэнне каранаваць Вітаута (у Вільні) каралём Літвы. На з'ездзе бралі ўдзел: імператар Свяшчэннай Рымскай імперыі Сігізмунд I, кароль Польшчы Уладзіслаў II Ягайла, прадстаўнікі некаторых заходнееўрапейскіх манархаў, вялікіх князёў маскоўскага і цвярскога, рымскага папы і візантыйскага імператара. Інтрыгі польскіх паноў і смерць Вітаута (яму было прыкладна 80 гадоў) перашкодзілі ажыццявіць гэты план.

Вітаут увайшоў у гісторыю Еўропы як славуты дзяржаўны дзеяч, дыпламат, палкаводзец. Пра яго напісаны мастацкія творы і навуковыя працы, намаляваны карціны, створаны скульптурныя партрэты, яго імя носіць універсітэт у Каўнасе, ордэн — найвышэйшая ўзнагарода Летувы. У гонар Вітаута многія бацькі даюць яго імя сваім сынам. У 1930 г., да 500-годдзя з дня смерці Вітаута ў Каўнасе, была пабудавана мусульманская мячэць (гл. Каўнаская джамія). У 1997 г., у 600-годдзе татарскага асадніцтва ў ВКЛ, распачатага пры Вітаўце, мяркуецца ўзвесці помнік спадару ад літоўскіх татараў.

Польскія навукоўцы Пётр Бараўскі і Аляксандр Дубінскі сабралі і ў манаграфіі "Польскія татары: Гісторыя, абрады, легенды і гістарычныя паданні" (Варшава, 1986) коратка напісалі, як рысаваўся татарам вобраз Вітаута.

Яшчэ ў другой палавіне 16 ст. татары ў сваіх паданнях называлі Вітаута белым ханам, сваім спадаром (Гаспадаром), апорай Ісламу на Захадзе, Ваттадам. Яны былі ўдзячны князю за тое, што ён надзяляў іх зямельнымі угоддзямі, а таксама гарантаваў свабоду веравызнання.

Відаць, татары з цягам часу забылі, што права свабоды веравызнання не адносілася да палонных, якіх гвалтам хрысцілі (гл. Гвалтоўнае хрышчэнне) і сялілі як залежных земляробаў. Адносіны паміж татарамі і іх спадаром Вітаутам не былі такімі добрымі, як

таго хацелі укладальнікі традыцыі — народных паданняў на гістарычныя тэмы. Праўдзіва гаворыцца, што татары былі асаднікамі ў ВКЛ, аднак мужчыны-татары павінны былі выконваць вайсковую павіннасць, цэлымі гадамі праводзілі на вайне, адарваныя ад сваёй сям'і, атрымлівалі раны ў баях, рэдка хто з іх паміраў сваёй смерцю. Калі татарын не мог з'явіцца пад сцягі спадара на кані і з баявым рыштункам, то Вітаўт патрабаваў ад яго прадаць дзяцей, а каня купіць. Здараліся выпадкі, што татары-асаднікі бунтавалі супраць жорсткай улады Вітаўта, але гэта для іх дрэнна канчалася. У лісце комтура Дынабурга (Дзвінска) да магістра Ордэна мечаносцаў (Лівонскага ордэна), датаваным 31 сакавіка 1421 года, чытаем, што літоўскія татары узбунтаваліся супраць Вітаўта. Выступленне гэтае было задушана літоўскім войскам, а вінаватых пакаралі смерцю.

Нягледзячы на былыя непаразуменні татараў з Вітаўтам яны успаміналі пра яго як свайго апекуна і абаронцу. У прашэнні (супліцы) да караля Зыгмунта Старога ад 1519 г. пра Вітаўта татары пісалі: "Ён (Вітаўт) не казаў нам забываць Прарока (Мухаммеда), а мы, да святых месц (г.зн. Меккі і Медыны) вочы абарачаючы, так імя яго паўтаралі, як нашых халіфаў". Цераз вякі Вітаўт жыў у традыцыі татараў як ваяўнічы уладыка і абаронца Ісламу. Адзін дзень у год прызначалася маленне мусульман у мячэці за яго душу. Пра вялікую павагу татараў да Вітаўта пісалі многія хранікёры і гісторыкі 16-га стагоддзя — Ян Красінські, Марцін Кромер, Міхал Літвін, Мацей Мехавіта, Мацей Стрыйкоўскі, Марцін Бельскі і інш.

З падставамі ці без падстаў імя Вітаўта звязваюць з заснаваннем паселішч татараў, напрыклад, Сорак Татараў каля Вільні, Студзянкі у Падляшшы (у 1960 г. аб гэтым пісаў Мацей Канапацкі). Аб гэтым будзе сказана у асобных артыкулах пра населеныя пункты, дзе жывуць ці жылі татары.

ВОЛЬСКІ Віталь (сапраўднае Вольскі-Зэйдэль Віталь Фрыдрыхавіч, 5.9.1901, Санкт-Пецярбург — 22.8.1988, Менск), беларускі празаік, драматург, літаратуразнавец, перакладчык, даследчык гісторыі і культуры беларускіх татараў, кандыдат філалагічных навук (1934). Нарадзіўся у сям'і служачага. Бацька Фрыдрых Карлавіч, маці Адэля Лаўрэнаўна, рана памерла, выхоўвала хлопчыка мачаха Аляксандра Міхайлаўна Папкова, якую ён любіў як родную маці. Скончыўшы сёмы клас гімназіі, працаваў на Трубачным заводзе. Слу-

жну у Чырвонай Арміі, удзельнічау у грамадзянскай вайне. Скончыу Камуністычны універсітэт у Менску (1927). Друкавацца пачау у 1926 г. у газеце "Звязда" і "Савецкая Беларусь", у 1927 г. у часопісах "Наш край" і "Узвышша". Вольскі - аутар многіх літаратуразнаучых прац, такіх як манаграфія "Эдуард Самуйлёнак. Жыццё і творчасць", "Сучасныя праблемы беларускай савецкай драматургіі" (першая кніга), "Нарысы па гісторыі беларускай літаратуры эпохі феадалізму", падручніка "Беларуская савецкая літаратура" для 5-10 класау. У некаторых працах і асабліва артыкулах аддау даніну вульгарнаму сацыялагізму. Шматлікія нарысы, апавяданні характарызуюць аутара як дапытлівага краязнауцу, падарожніка, дасведчанасць і зацікауленасць якога раскрываюцца ва узаемадачыненнях з прыродай.

П'есы Вольскага "Цудоуная дудка", "Дзед і Жорау", "Несцерка", "Машэка" у розныя гады ставіліся на сцэне. Ён напісау таксама сцэнарыі дакументальна-краязнаучых фільмау "Белавежская пушча"(1946), "Бярэзінскі запаведнік" (1965) і мастацкага фільма "Несцерка" (1955). У канцы жыцця пісау успаміны "На зломах эпохі" (не завершаны).

Значнае месца у даследчыцкай дзейнасці В.Вольскага займала татарская тэма. У 1927 г. апублікавана: Татары на Беларусі. "Наш край", № 3, 4; Наконт нацыянальнай літаратуры беларускіх татар. "Узвышша", № 4; Татарскі тэатр. "Узвышша", № 5; Асноуныя прынцыпы арабскай транскрыпцыі беларускага тэксту у "Кітабах", "Узвышша", № 6.

У 1928 г. апублікавана: Аб асаблівасцях жывой мовы беларускіх татар і арабскай транскрыпцыі "Аль-Кітабау", "Наш край", № 8-9.

У 1929 г. апублікавана: Беларускія элементы у бытавой абраднасці літоускіх татар. "Наш край", № 8-9; Вусныя паданні літоускіх татар. "Наш край", № 11; Цюрка-татарскія элементы у беларускай мове, "Узвышша", № 6.

У 1933 г. апублікавана: Наконт беларускай мовы у татарскіх "кітабах". "ЛіМ", 26 кастрычніка.

ВОРСКЛА, левы прыток Дняпра, рака у Белгарадскай вобласці Расіі, Сумскай і Палтаускай абласцях Украіны. Даужыня 464 км, шырыня рэчышча у сярэднім і ніжнім цячэнні 35-40, месцамі да 100 м.

Каля гэтай ракі, за 350 км на паўднёвы ўсход ад Кіева 12.8.1399, на тэрыторыі тагачаснай Залатой Арды адбылася бітва паміж войскам Вялікага княства Літоўскага, якое ўзначальваў Вітаўт, і войскам Залатой Арды. У літоўскай гістарычнай літаратуры гэта бітва вядома пад назвай Ворсклаўская бітва.

Пасля паходаў Вітаўта ў Прыазоўе і на Крым (гл. Вітаўта паходы 1397 і 1398) ён стаў рыхтавацца да рашучай бітвы з Цімурам=Кутлугам, ханам, які правіў у Залатой Ардзе. Па загаду Вітаўта аднаўляліся і будаваліся новыя ўмацаванні ў Кіеве — асноўнай базе да выправы на вайну.

Вітаўт хацеў надаць свайму паходу характар вялікай хрысціянскай крыжовай выправы (крўцыяты) супроць няверных — татараў-мусульман. Па просьбе польскага караля Уладзіслава II Ягайла рымскі папа Баніфацы IX абвясціў 4 мая 1399 г. пастанову (булу) аб крыжовым паходзе супроць татараў. Магчыма, што папа не ведаў усяго таго, што рабіў Вітаўт і якія ў яго былі намеры, што ў гэтым крыжовым паходзе прымуць удзел некалькі тысяч няверных — татараў-мусульман дружыны былога хана Залатой Арды Тахтамыша. Істотнай для Вітаўта была падтрымка канстанцінопальскага патрыярха, які паслаў на Русь свайго пасланніка, каб той уздымаў праваслаўнае духавенства і ўсіх хрысціян на барацьбу з татарамі-мусульманамі (пасля перамогі ў бітве на Куліковым полі гэта было ўжо даволі проста).

Вялікі князь Вітаўт, добра знаёмы са звычаямі рыцараў заходніх краін, імкнучыся сабраць як мага большыя сілы, распарадзіўся выставіць так званы ганаровы стол на працягу некалькіх тыдняў. Тут рыцары — удзельнікі паходу маглі есці і піць усё, чым быў багаты Вітаўт. За чэрвень і ліпень пад літоўскія сцягі сабраліся рыцары з Вялікага княства Літоўскага, многія рыцары з Польшчы, віцязі з Русі і Валахіі, рыцары з нямецкіх краін. Аснову войска Вітаўта складалі літоўцы і беларусы. Даволі многа было татараў Тахтамыша — саюзніка Вітаўта. Яны мелі вопыт баёў у стэпе.

На пачатку жніўня Вітаўт рушыў у стэп. Перад выправай, паводле рускага летапісу, Вітаўт сказаў: "Паб'ём хана Цімур-Кутлуга, адбяром у яго дзяржаву і пасадзім на троне Тахтамыша, а ён тады пасадзіць мяне на трон усёй Русі".

Пасля некалькіх дзён пераходу на паўднёвы ўсход літоўскія

сілы дасягнулі ракі Ворсклы, дзе ужо стаяла армія Цімура-Кутлуга.

На працягу некалькіх дзён Цімур-Кутлуг вёу перамовы з Вітаутам, каб выйграць час. Даючы Вітауту надзею на мірнае заканчэнне канфлікту і прызнанне падпарадкавання Літве, ён чакау падыходу галоуных сіл Залатой Арды пад началам эміра Эдыгея — аднаго з самых таленавітых палкаводцау таго часу.

12 жніуня, за дзве гадзіны да заходу сонца, татары раптоунай атакай распачалі бітву. У час адной з атак татары кінуліся уцякаць і выманілі рыцарау з добрай пазіцыі каля ракі. Татары вярнуліся і акружылі літоускае войска. Хоць бітва была зацятая, але не было надзеі на перамогу. У момант, калі лёс бітвы быу вырашаны, Тахтамыш са сваімі паплечнікамі уцёк. Уцёкамі ратавауся і Вялікі князь Вітаут. Паводле польскага храніста Яна Длугаша польскія рыцары,мужна змагаючыся з татарамі, усе загінулі. У гэтай бітве загінулі славутыя людзі, вядомыя у Вялікім княстве Літоускім і на усёй Русі. Сярод іх Андрэй Альгердавіч Полацкі, Дзмітрый Альгердавіч Бранскі, герой Кулікоускай бітвы Дзмітрый Баброк-Валынскі, шмат іншых Гедымінавічау і Рурыкавічау, цвет літоуска-рускага рыцарства.

Нягледзячы на паражэнне у бітве каля Ворсклы, Вялікае княства Літоускае утрымала пад сваёй уладай Пауночнае Прычарнамор'е і сабралася з сіламі, каб разграміць крыжакоу у Грунвальдскай бітве.

ГЛОГЕР Зыгмунт (псеуданім Прускі, 3.II.1845, Каменка Падляская у Польшчы — 15.8.1910) польскі археолаг, этнограф, гісторык і фалькларыст. Скончыу Варшаускі універсітэт (1867).

Арганізатар і І-ы старшыня краязнаучага таварыства у Варшаве. Даследавау помнікі археалогіі каменнага і бронзавага вякоу на тэрыторыі Беларусі, Польшчы і Літвы (толькі з Слонімскага павета у калекцыі Глогера быу 191 археалагічны прадмет). Упершыню апублікавау шмат матэрыялау па беларускай драулянай архітэктуры. Зрабіу некалькі фальклорна-этнаграфічных і краязнаучых экспедыцый, матэрыялы якіх апублікавау у працы "Вясельныя урачыстасці"(1869), дзе акрамя польскіх змясціу беларускія запісы з Брэсцкага і Трокскага паветау. У часопісе "Вісла" (1882) апублікавау артыкулы пра краязнаучыя падарожжы ("На хвалях Буга", "Падарожжы Нёманам", "У даліне Бебжы" і інш.). З 1870 года жыу у Яжэве (Польшча) і разам са сваёй жонкай А.А.Ельскай-Глогер сабрау вялікую музейную калекцыю археалагічных, археаграфічных, этнаграфічных матэрыялау, а

таксама багатую бібліятэку і збраёуню. У яго прыватным музеі захоуваліся беларускія матэрыялы са зборау М.Федароускага, А.Кіркора, Я. і К.Тышкевічау, А.Ельскага і інш. Сабраныя матэрыялы Глогер выкарыстау у "Старапольскай энцыклапедыі" (т. 1-4, 1900-1903, выданне у 1974). У гэтай энцыклапедыі, між іншым, змешчаны артыкулы (каля 140), звязаныя з цюркскай (пераважна татарскай) тэматыкай. Пры складанні энцыклапедычнага слоуніка "Татары Беларусі, Літвы і Польшчы" адсюль запазычаны многія тэрміны, ідэі, інфармацыя.

КРЫЧЫНЬСКІ Найман-Мірза Лявон Арслан (25.9.1887, Вільня - 1939), праваЗед, даследчык гісторыі татарау і татарскі грамадскі дзеяч. Продак яго з Залатой Арды, заснавальнік роду Крычыньскіх. Л.Крычыньскі вучыуся у Віленскай і Смаленскай гімназіях, затым у Санкт-Пецярбургскім універсітэце, дзе вывучау права (вучобу скончыу у 1911 г.). У час вучобы у 1907-1910 быу адным з арганізатарау і кіраунікоу студэнцкай нелегальнай арганізацыі — згуртаванне татарау Польшчы, Літвы, Беларусі і Украіны. Цікавіуся жыццём мусульман Расіі, з сімпатыяй сачыу за сацыяльна-палітычным рухам сваіх мусульман-адзінаверцау.

З 1912 г. Крычыньскі у Варшаве. Тут ён арганізавау Варшаускае мусульманскае згуртаванне дапамогі бедным мусульманам, якое шмат зрабіла для мусульман у час першай сусветнай вайны. Працуючы у Варшаве, ён працягвау збіраць матэрыял па складанні бібліяграфіі па гісторыі татарау. У выніку гэтай вялікай і працяглай працы у 1917 г. у Петраградзе былі апублікаваны "Библиографические материалы к истории татар Польши, Литвы, Белоруссии и Украины" (выдавецтва "Заря Востока", якім кіравау Ахмад Селікаты — старшыня Усерасійскага Мусульманскага Савета).

У 1917 г. Крычыньскі арганізуе у Петраградзе Тымчасовую раду татарау Польшчы, Літвы, Беларусі і Украіны, выконваючы функцыі яе сакратара. У 1917-1918 быу старшынёй Мусульманскага клуба у Петраградзе, выбраны задзіночанымі петраградскімі мусульманскімі арганізацыямі.

У 1918 г. Крычыньскі у Крыме, дзе пад кіраунііцтвам свайго земляка і дауняга сябра Мацея Сулькевіча — прэм'ер-міністра Крымскай рэспублікі займае высокую пасаду шэфа канцыляры і главы рэспублікі. Ён узначальвау Надзвычайную парламецкую камісію па

вывучэнні грэка-татарскага канфлікту у Крыме. У гэтым жа годзе Крычыньскі стварыу у Сімферопалі Таварыства польскіх татарау, у 1919 г. быу дэлегатам парламента да перагаворау з польскімі арганізацыямі у Крыме па пытанні залучэння польскіх галасоу на карысць татарскіх дэлегатау у парламент.

Пасля задушэння татарскай рэспублікі у Крыме ён пераехау у Азербайджан, дзе быу дырэктарам канцылярыі урада Азербайджанскай рэспублікі у Баку і рэдактарам перыядычных выданняу. Маючы магчымасць вывучаць сакрэтныя архівы Таурычаскай (Крымскай) губерні, а затым і Закауказзя Крычыньскі апублікавау "Очерки российской политики на окраинах" (два тамы) і "Документы российской политики в Закавказье" (два тамы), у якіх паказаны адносіны царскага урада да "инородцев" (гэтыя матэрыялы ніколі не перавыдаваліся — заувага рэд.). Крычыньскі дачыніуся да выдання у 1918 г. у Сімферопалі кнігі Юсуфа Везірава "Гісторыя польскіх татарау".

Вярнуушыся на радзіму у 1920 г. Крычыньскі прафесійна працавау як юрыст, але знаходзіу сілы і час для навуковых даследаванняу і грамадскай дзейнасці. Ён быу адным з ініцыятарау стварэння Згуртавання татарау Рэчыпаспалітай Польшчы. Быу выбраны у Цэнтральную Раду гэтага згуртавання і сакратаром філіяла згуртавання у Вільні. Па ініцыятыве і пры актыуным удзеле Крычыньскага былі створаны у Вільні татарская бібліятэка (1926), музей (1929) і архіу (1931), прычым ён сабрау і перадау для грамадскага карыстання каштоуныя кнігі і матэрыялы.

Крычыньскі рэдагавау усе тры тамы -- Татарскія штогоднікі, якія убачылі свет у 1932, 1935 і 1938 гадах. Рыхтаваліся нумары 4 і 5, але выхаду іх перашкодзіла вайна. Адна з найважнейшых прац вучонага апублікавана у 1935 г. -- "Бібліяграфія да гісторыі польскіх татарау", у якой звесткі пра 1957 кніг і артыкулау і 72 рукапісы. З гэтай працай знаёміцца кожны, хто пачынае займацца гісторыяй татарау. Крычыньскі дачыніуся да вялікай справы — выдання "Гэрбажа родзін татарскіх" Станіслава Дзядулевіча. Крычыньскі змяшчае свае навуковыя і навукова-папулярныя артыкулы у квартальніках "Люд", "Усход", "Ісламскі агляд", часопісе "Татарскае жыццё", газетах. Вялікі уклад Крычыньскага у навуку арыенталістыку (усходазнауства) быу ацэнены тым, што яго выбралі членам Польскага Арыенталістычнага Таварыства.

Крычыньскі шмат падарожнічау: у 1904, 1913 і 1920 па Каўказе, Грузіі, Закаўказзі, у 1905, 1916-1919 па Крыме, пасля 1920 г. наведау Турцыю, Марока, Англію, Францыю, Бельгію, Нідэрланды, Іспанію і Партугалію. Бываючы за мяжой, Л.Крычыньскі знаёміў кіраунікоў дзяржаў (кароль Марока Мухаммед У адзначыў яго ордэнам) і грамадскасць з жыццём польскіх татарау. Аб яго выступленнях за мяжой пісалі амаль усе замежныя газеты. Крычыньскі папулярызавау у час сваіх паездак польскую літаратуру і культуру. За гэта Польская Акадэмія Літаратуры адзначыла яго высокай узнагародай — медалём "Срэбным Вавжынам Акадэміцкім".

Крычыньскі адзін і разам з вядомым гісторыкам татарскага народа Станіславам Крычыньскім пабывау амаль ва усіх гарадах, мястэчках, вёсках і засценках Польшчы, дзе жылі татары.

У Крычыньскага ёсць шматлікія публікацыі па юрыспрудэнцыі. Яго выдатныя прафесійныя здольнасці і сумленнасць высока цаніла адміністрацыя. У 1932 г. ён быу прызначаны на пасаду віцэ-старшыні акруговага суда у Замосці, у 1935 і да вайны займау такую ж пасаду у Гдыні.

У канцы верасня 1939 г. гестапа арыштавала і ён быу забіты фашыстамі як і многія польскія патрыёты.

СЮЕМБІКЕ, ханша, правіцельніца Казанскага ханства (1520—1558). Нарадзілася у сям'і прыдворнага Йосыфа-мірзы. Вылучалася прыгажосцю і розумам. У 14 гадоу стала жонкай ханскага сына Жанглі Аллахіяравіча. У 1535 г. яе муж быу забіты казанцамі і яна стала удавой. Былы хан казанцау Сафа-Гірэй— сын Махмета прыбыу у Казань і узяу шлюб з Сюембіке. Паводле падання гэта была шчаслівая сям'я. У 1547 г. у іх нарадзіуся сын Уцямыш-Гірэй. Пасля смерці хана Сафы-Гірэя ханам быу абвешчаны 2-гадовы хлопчык — Уцямыш-Гірэй. Правіцельніцай (рэгенткай) пры малалетнім сыне была Сюембіке. Каля магілы свайго мужа яна загадала пабудаваць прыгожую мячэць, мінарэт якой захавауся да гэтага часу і называецца цяпер башня Сюембіке.

Іван ІУ Жахлівы, імкнучыся заваяваць Казань, накіравау сюды свае войска. Не атрымаушы ніякай дапамогі, казанцы былі у 1551 г. разбіты. Сюембіке і малалетні Уцямыш-Гірэй апынуліся у палоне. Па волі рускага цара Івана Жахлівага ханам у Казані вы-

бралі Шахалі -- сына Аллахіяда. Сын Сюембіке Уцямыш-Гірэй быу ахрышчаны, хросным быу Іван Жахлівы. Хлопчыку далі імя Аляксандр і ён быу прыпісаны да прыдворнай службы. Па загаду цара Івана Жахлівага Сюембіке выдалі замуж за казанскага хана Шахалі, але Сюембіке не магла пакахаць хана. Шахалі адправіу Сюембіке у Маскву. Перад ад'ездам з радзімы яна, паводле падання, наведала магілу свайго мужа -- бацьку Уцямыш-Гірэя, развіталася з усім, што было ёй дорага. У Маскве пражыла нядоуга, моцна тужыла і памерла, магчыма, у 1558 г.

Пра Сюембіке у казанскіх татарау складзена шмат паданняу і легенд. Яна стала сімвалам за адраджэнне Татарстана.

---

## КУРБАН-БАЙРАМ -- СВЯТА АХВЯРАПРЫНАШЭННЯ

Па-арабску гэта вялікае гадавое свята называюць Ід аль-адха або Ід аль-кабір. Большасць чытачоу "Байрама" ведаюць аб гэтым святе многа і чытаць гэты артыкульчык не будуць. Для тых, хто пачуу аб святе упершыню, мы перадрукавалі невялічкі урывак з кнігі С.Думіна і І.Канапацкага "Беларускія татары. Мінулае і сучаснасць" ( стар. 159 -- 161 ).

" У гэты час ( пачынаецца свята 10 зу-ль-хаджа ) мусульмане здзяйсняюць Хадж -- падарожжа у святыя для іх месцы -- Мекку і Медыну, каб памаліцца і вярнуцца на радзіму. Тым, каму пашчасціла трапіць туды, дазваляецца насіць на галаве чалму і да іх імя дадаецца ганаровы тытул хаджы.

На Курбан-Байрам рэжуць ахвярных жывёл ( курбаноу ) -- быкоу і бараноу. Мяса раздаецца бедным, а калі такіх мала, -- то усім вернікам абшчыны і прыехаушым на свята, каб кожны мог прыгатаваць святочны абед. Курбаноу рэжуць у памяць пра тое, як Ібрагім ( Аураам ) быу гатовы ахвяраваць Аллаху свайго сына Ісмаіла, але міласэрны Аллах паслау анёла, і той прынёс Ібрагіму для ахвяры барана, чым выратавау жыццё Ісмаілу.

Кожны мусульманін хоць адзін раз у жыцці павінен ахвяраваць курбана. Вернікі-мусульмане асабліва старанна выконваюць гэта патрабаванне. Паводле Ісламу, той, хто не прынясе ахвяру, не можа перайсці па тонкім, як волас, мосце над безданню. Той Сіратмост льга пераадолець на спіне курбана, калісьці аддадзенага у ахвяру.

У свята Курбан-Байрам у мячэці адбываецца урачыстае богаслужэнне, чытаюцца пропаведзі -- праслауляецца Аллах, Іслам, прарокі Аллаха. У тыя дні татары наведваюць магілы сваіх родных і блізкіх, едуць здалёк, за сотні кіламетрау, бо мусульманскія могілкі нешматлікія на Беларусі, моляцца за памерлых, абыходзяць з малітвай вакол усяго мізара. Раздаюць міласціну састарэлым і нядужым, а тыя моляцца за душы памерлых. Звычайна у гэта свята вернікі робяць рэчавыя і грашовыя паднашэнні на карысць мячэці і на дабрачынныя мэты."

# ДЗЕВЯТАЕ МАЯ ПА-МУСУЛЬМАНСКУ

Незвычайная сустрэча адбылася у 65-й школе Менска — адзначалася вялікае свята — 9-ае Мая — Дзень Перамогі. Многа татарскіх, арабскіх, турэцкіх хлапчукоў і дзяўчынак, падлеткаў, людзей сталага і пажылога узросту сабраліся, каб павіншаваць удзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны, успомніць тых, хто загінуў на франтах, у партызанах і падполлі, хто выжыў і яшчэ многа працаваў пасля вайны.

Згодна з мусульманскай традыцыяй святкаванне пачалося з чытання адпаведнай суры з Свяшчэннага Кур"ана. Затым усе прысутныя для ушанавання душ палеглых і памерлых прачыталі суру Аль-Фаціха.

Вядучы звярнуўся да дзяцей з хутбай ( прамовай ), дзе між іншым сказаў: "Добра быць прыгожым, добра быць таленавітым, але найлепшая якасць для мусульманіна — гэта быць працавітым, сумленным і далікатным. І гэта залежыць ад вас самых. Кожны мусульманін можа выхаваць у сабе гэтыя якасці. Без іх нічога не вартыя ні прыгажосць, ні талент".

Далей ужо выступалі дзеці. Яны падзяліліся на групы хлопчыкаў і дзяўчынак і як бы спаборнічалі. Гучалі песні і дэкламацыі на арабскай, беларускай і рускай мовах. Юныя музыканты выконвалі на розных інструментах п"есы.

З вялікай увагай слухалі прысутныя кароткую, але цікавую прамову падпалкоўніка, удзельніка Вялікай Айчыннай вайны Ісмаіла Мелетава. Яму і Таццяне Якубоўскай-Несцяровіч, менскай падпольшчыцы у гады Вялікай Айчыннай вайны, дзеці уручылі букеты.

На свята дзеці прынеслі свае малюнкі і ручныя працы — вышыўкі, цацкі. Удзельнікі выступленняў і выставы былі адзначаны падарункамі — прысмакамі.

Святкаванне працягвалася у спартыўных гульнях, а пасля за святочным сталом.

На тварах дзяцей і дарослых былі добрыя усмешкі. Хочацца, каб добры настрой у іх быў заўсёды. Хочацца, каб мусульмане — дзеці і дарослыя сустракаліся часцей, каб мусульманская мараль умацоўвалася сярод дарослых і дзяцей.

Сродкі на правядзенне святкавання дала дабрачынная мусульманская грамадскасць.

# ДЛЯ СТАЛІЦЫ СУВЕРЭННАЙ БЕЛАРУСІ ВЕЛЬМІ ПАТРЭБЕН ТАКІ КОМПЛЕКС

Ініцыятыўная група архітэктараў распрацавала праграму фарміравання грамадска-культурнага цэнтра Згуртавання татараў-мусульман Беларусі. Атрымаўшы згоду высокапрафесійных спадароў "Байрам" ( можа яшчэ і зарадта рана, але нашы кніжачкі выходзяць так рэдка ) друкуе некаторую частку гэтага абгрунтавання.

...У сучасны момант перад Рэспублікай Беларусь стаіць праблема распрацоўкі новай, арыентаванай на ўласныя інтарэсы канцэпцыі знешнепалітычнай дзейнасці. І пакуль дзяржаўныя структуры марудзяць ( службоўцам плацяць грошы за пасаду, а не за работу — заўвага рэд. ) ва ўстанаўленні дзелавых кантактаў з замежнымі гандлёўцамі і прадпрымальнікамі з мусульманскага свету, то ініцыятыўныя людзі з Усходу і беларускія дзелавыя людзі зацікаўлены у хуткім наладжванні узаемавыгадных з арабскімі і цюркскімі краінамі пле́нных адносін.

Пакуль што неабходных умоў для цывілізаваных кантактаў у нас няма. Становішча можа істотна змяніцца са стварэннем Цэнтра культуры беларускіх татар у Менску, які, з аднаго боку, забяспечыць умовы для рэалізацыі членамі татарскай абшчыны права на вывучэнне сваей гісторыі, рэлігіі і культуры, з другога боку, будзе месцам адпачынку жыхарэм сталіцы, месцам дзелавых сустрэч, дасць магчымасць задаволіць цікавасць людзей да багатай старажытнай гісторыі Усходу.

Зыходзячы з пастаўленай мэты структура Цэнтра павінна быць дастаткова развітой і уключаць асноўныя блокі памяшканняў:

I. Медрэсе ( на 200 навучэнцаў );
2. Бібліятэка-музей арабскай, татарскай і беларускай кнігі;
3. Тэатральна-канцэртная зала ( на 200 пасадачных месц );
4. Зала нарад з пакоямі для прыёму дэлегацый і дзелавых сустрэч;
5. Мастацка-музычны салон з пакоямі для арганізацыі выстаў;
6. Зала усходніх гульняў;

7. Кафэ з заламі усходняй і беларускай кухні ( па 50 пасадачных месцаў );
8. Клубныя памяшканні;
9. Аздараўленчы комплекс;
10. Офіс Згуртавання татараў-мусульман Беларусі;
11. Рэдакцыя часопіса "Байрам";
12. Гасцінічны комплекс ( на 150 месц ):
13. Комплекс гандлёвых памяшканняў ( у т.л. дазволеных для харчавання мусульман );
14. Тэхнічныя і гаспадарчыя памяшканні.

У сучасны момант прыгледжана адпаведная пляцоўка для будаўніцтва Цэнтра і распачата хадайніцтва аб дазволе на папярэдняе праектаванне.

---

Заўвага: Яшчэ у раннім Сярэднявеччы у гарадах былі розныя падвор"і, куды купец ці падарожнік мог звярнуцца, каб атрымаць начлег, адпаведную яго звычкам яду, дзе абслуга разумела яго мову, пры патрэбе магла памяняць грошы, даць талмача-перакладчыка. У гарадах Беларусі, мястэчках: былі татарскія вуліцы, дзе татарын мог знайсці дапамогу, калі яго спаткала нядоля ( і цяпер у малых гарадах і мястэчках татарын можа разлічваць на дапамогу ). У Менску і абласных гарадах цяпер няма татарскіх вуліц, няма даверу да незнаёмага чалавека, няма спагады і дапамогі. Калі б з волі Аллага у Менску пабудавалі Цэнтр, то гэта вырашыла б многія пытанні.

А хто дасць сродкі на праект і мантажна-будаўнічыя работы ? З волі Аллага могуць дапамагчы мусульманскія краіны — арабскія і цюркскія. Таму татары-мусульмане пашырайце сярод вашых знаёмых ідэю неабходнасці будаўніцтва і фінансавання гэтай вялікай справы. Няхай кожны, хоць сам сабе скажа: "І я прычыніўся да гэтай справы."

---

Напрыканцы красавіка у Менск прыязджаў з Татарстана, з Набярэжных Чаўноў, Фаніс Аглямавіч Шайхутдзінаў. Ён папрасіў, каб мы давялі да ведама усіх мусульман Беларусі, асабліва паволжскіх татар, якіх жыве тут не менеў за 3 тыс. чалавек, аб будаўніцтве у Набярэжных Чаўнах Саборнай мячэці. Па яго просьбе артыкул друкуем на рускай мове. На жаль, імя архітэктара гэтай мячэці дрэнна надрукавана, таму мы яго называем мусульманін Басыраў.

## ПОСТРОИМ СОБОРНУЮ МЕЧЕТЬ

Слава Всевышнему, в последнее время народы наши распрямляют согнутые спины. Нас всех беспокоит состояние культуры, языка, веры и обычаев. Настало время обратиться лицом к истинной вере, начать заботиться о чистоте души, о нравственном здоровье грядущих поколений. В городах и селах каждый год теперь открываются новые мечети и медресе. Еще совсем недавно в городе Набережные Челны закладывали фундамент первой мечети. В ее строительстве и подготовке к открытию внесли свой вклад мусульмане всего мира. А теперь здесь начинается еще более важная и величественная работа. В самом центре города будет построена Соборная мечеть с семью минаретами, главный из которых будет иметь более 100 метров в высоту.

Решением вопросов соответствия будущей мечети религиозным канонам занимается имам-мухтасиб Идрис Галяутдин. Проект мечети, можно сказать, готов. Его автор мусульманин архитектор Басиров. Расходы по строительству берет на себя известный не только в Татарстане, но и в других странах торговый дом братьев Рафиса и Нафиса Кашаповых.

Мы обратились с вопросами к этим уважаемым людям, взявшимся за столь благородное дело

— Какой будет мечеть ?

— Очень удачно выбрано место строительства, — начали они.— В центре города, на самой большой и видной площади. В республике такой мечети еще не было. В нее смогут войти одновременно 3000 человек. Зал религиозных конфесий рассчитан на 700 человек. При мечети будет работать медресе на 120 учеников. Библиотека рассчитана на 100 тыс. томов. Для проведения торжеств по мусульманским законам планируется кафе на 200 посадочных мест. Здесь же предусмотрено строительство большого торгового центра. Мечеть, обращенная к небу семью минаретами, милостью Всевышнего будет гордостью нации, местом укрепления веры и святости.

— Всем известно, что Челны многонациональный город. Как относятся представители других верований, скажем, православные ?

— С пониманием и одобрением. Но такое мирное сосуществование религий кое-кому не нравится. Недавно Московское радио в очень недоброжелательной форме, можно сказать в агрессивном тоне говорило об этом событии, видимо, желая вызвать негативную реакцию у других национальностей. Но это им не удастся. Мы приложим все усилия жить и дальше в мире, согласии и дружбе. Несмотря ни на что, мы уже приступили к подготовительным работам. Конечно, чтобы вести такое строительство, требуется время и много труда. Несмотря на это необходимо закончить его в максимально короткое время. Если возьмемся всем миром, думаем, что не затянем.

— Наверное, расходы будут немалые. Их берет на себя только Ваша фирма ?

— Да, расходы предстоят большие, — сказали братья Кашаповы, — строительство мечети обойдется примерно в один миллиард рублей. Конечно, нам одним это не по силам. В таком большом деле Аллах не оставит нас милостью, и народ не останется равнодушным. Выражаем надежду, что наши мусульманские братья в Чечне, Дагестане, Ингушетии, Башкортостане, Узбекистане, Азербайджане, Туркменистане, Казахстане, Кыргызстане, Беларуси, Литве, Латвии и Эстонии, Польше и других стран также окажут нам помощь.

В этом благородном деле, надеемся, не останутся в стороне и представители других народов, наций, верований.

Деньги можно перевести по следующему адресу:

Расчетный счет 70016185/700016 Камский коммерческий банк РКЦ г. Набережные Челны код 265469. Для строительства соборной мечети.

Кадыйр Сибгат, поэт

---

Заўвага: Набярэжныя Чаўны — горад на усходзе Татарстана, другі па велічыні у Рэспубліцы. Насельніцтва больш за 500 тыс. ( 1992 г. ), порт на Каме. Як горад заснаваны у 1930 г., у 1982 — 1988 меў назву горад Брэжнеў. Найбольшае прадпрыемства- Камскае аб"яднанне па вытворчасці вялікагрузных аўтамабіляў ( КАМАЗ ). Харчовая, дрэваапрацоўчая, лёгкая прамысловасць; вытворчасць будматэрыялаў. Ніжнекамская ГЭС. Політэхнічны і педагагічны інстытуты. Горад вядомы выданнямі газет, часопісаў і кніг на татарскай мове і на рускай мове на татарскія тэмы.

# КНІГА АБ БЕЛАРУСКІХ ТАТАРАХ

23 красавіка 1993 г. у штотыднёвіку "Літаратура і мастацтва" у рубрыцы " Ля кніжнай паліцы" змешчаны артыкул "Тут іх радзіма". Напісаў яго Іосіф Хауратовіч — кандыдат гістарычных навук, Лаўрэат дзяржаўнай прэміі Беларусі, Заслужаны дзеяч культуры Беларусі, намеснік галоўнага рэдактара выдавецтва "Беларуская Энцыклапедыя". Са згоды аўтара мы перадрукавалі гэты цікавы для нас артыкул.

Амаль шэсць стагоддзяў жывуць на беларускай зямлі татары, выхадцы з даўно забытых ордаў. Жывуць поплеч з беларусамі, палякамі, літоўцамі і іншымі народамі. Шэсць стагоддзяў служылі іх продкі гэтай зямлі. Тут іх радзіма. Чатырыста гадоў таму амаль усе яны перайшлі на беларускую мову і сёння амаль не адрозніваюцца ад мясцовых жыхароў, хіба толькі тым, што некаторыя з іх носяць татарскія імёны, а частка з іх спавядае Іслам, з чым звязаны некаторыя адметныя традыцыі і звычаі. Іх шматвекавая гісторыя упісана у гісторыю балта-славянскай дзяржавы — Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага, якой яны служылі верай і праўдай.

Іх спрадвякоў называлі літоўскімі татарамі ( зрэдку — беларускімі татарамі ), незалежна ад таго, жылі яны на землях Беларусі, Польшчы ці Літвы. Такім найменнем і сёння найчасцей карыстаюцца гісторыкі і этнографы. Апошнім часам у татарскім асяроддзі узнік яшчэ тэрмін "заходнія татары", у адрозненне ад крымскіх, казанскіх і інш. Заходнія татары складаюць спецыфічную нацыянальную групу татараў, іх характэрнай адзнакай з"яўляецца славянамоўнасць. Сёння з 12 тысяч татар, што жывуць на Беларусі, толькі 3 тысячы назвалі роднай мовай татарскую...

З глыбокай старажытнасці на Беларусі іх асноўным абавязкам з"яўлялася вайсковая служба. Правіцелі Літоўска-Беларускай дзяржавы цанілі ваенны вопыт і баявыя якасці ваяўнічых нашчадкаў ардынцаў, яны ўмелі і любілі ваяваць. Таму вялікія князі надзялялі іх зямлёй, плацілі жалаванне, прывабліваўлі падарункамі. Напачатку яны мелі свае харунжаствы, потым служылі у складзе войска вялікага князя. Татары Вялікага княства, якое стала іх радзімай, верна служылі сваей новай айчыне, змагаліся з яе ворагамі, у тым ліку і з былымі адзінаверцамі-мусульманамі.

Татарскія харугвы лічыліся асобным тыпам кавалерыі. Літоўска-татарская кавалерыя прымала актыўны ўдзел амаль ва ўсіх бітвах і шматлікіх тагачасных войнах. Пад вялікакняскімі і каралеўскімі сцягамі яна ўдзельнічала ў Грунвальдскай бітве 1410 г., білася з рускай памеснай конніцай, турэцкімі янычарамі, драгунамі шведскага караля, казацкімі загонамі, а таксама з лівонскімі, венгерскімі, прускімі і інш. войскамі, яны былі ў ліку паўстанцаў Т.Касцюшкі і К. Каліноўскага.

Прадстаўнікі татарскай знаці ўключаліся ў склад класа феадалаў, нароўні з баярамі, шляхтай, атрымоўвалі значныя абшары зямлі, служылі пры князях талмачамі, ездзілі пасламі ў татарскія ханствы. Правы і павіннасці служылых татар ( "татар гаспадарскіх" ) былі даволі акрэсленыя, а іх юрыдычнае становішча замацоўвалі вялікакняскія прывілеі і розныя юрыдычныя акты. У ліку абмежаванняў, прадугледжаных Статутамі Вялікага княства Літоўскага 1529, 1566 і 1588 гадоў, былі: забарона татарам набываць хрысціян у няволю, пераводзіць закупных хрысціян у сваю "басурманскую веру" і браць хрысціянак карміцелькамі сваіх дзяцей. Фактычна шлюбы паміж татарамі і хрысціянкамі, якія заўсёды асуджалі царква і касцёл, увесь час заключаліся, прычым татары жаніліся і на шляхцянках, трымалі яны і чэлядзь нявольную, і карміцелек-хрысціянак. Характэрна, што татар-прыгонных у Вялікім княстве Літоўскім да 19 ст. не было.

У час так званай Контррэфармацыі татары-мусульмане карысталіся нават большай свабодай, чым хрысціяне-іншадумцы. Езуіты адкрыта сцвярджалі, што яны згодны хутчэй дазволіць свабоднае веравызнанне татарам і яўрэям, чым дысідэнтам ( ерэтыкам, іншадумцам ), якія больш небяспечныя для рымскай царквы. Татары-мусульмане не ўяўлялі для іх небяспекі з прычыны іх нешматлікасці. Практычна каталіцкае духавенства ставіла мэтай перашкодзіць толькі пашырэнню Ісламу ў Беларуска-Літоўскай дзяржаве.

Безупынныя зносіны татар з беларусамі паўплывалі на беларускую мову. На думку акадэміка Я.Карскага, каля 2 тысяч слоў у беларускай мове маюць цюркскае паходжанне, у іх ліку такія звычайныя для нас сёння словы, як баламут, барыш, гарбуз, дуралей, капкан, каптан, люлька, тавар, хамут і інш.

Найбольшыя асяродкі татарскага насельніцтва да сёння захаваліся ў Слоніме, Смілавічах, Ляхавічах, Глыбокім, Лідзе, Мядзеле; жывуць яны ў Менску, Вільні. Займаюцца рамёствамі, ага-

родніцтвам. У гады савецкай улады і у гады гітлераўскай акупацыі многія іх мячэці былі разбураны, зачынены, перабудаваны альбо закінутыя. Быў разрабаваны і знішчаны татарскі музей у Вільні.

Толькі у 1970-я гады у Польшчы, Літве і на Беларусі актывізавалася дзейнасць татарскіх нацыянальных арганізацый, якія маюць на мэце адрадзіць лепшыя традыцыі, спрыяць пашырэнню цікавасці да сваей гісторыі.

Адной з праяў гэтага адраджэння стала кніга С.У.Думіна і І.Б.Канапацкага "Беларускія татары: мінулае і сучаснасць", якая толькі што выдадзена выдавецтвам "Полымя". Кніга невялікая— 200 старонак. Але у ёй даволі поўна і праўдзіва распавядаецца пра гісторыю татар, што здавён жывуць на Беларусі ад іх паяўлення у 14 ст. на землях Вялікага княства Літоўскага і да нашых дзён. У кнізе падрабязна асвятляецца ўвесь гэты даволі працяглы гістарычны перыяд з яго гераічнымі і трагічнымі старонкамі, адзначаюцца у ёй перыяды захавання нацыянальнага укладу жыцця татар і паступовай іх асіміляцыі, цесныя сувязі з беларусамі. Асобныя раздзелы прысвечаны традыцыям, побыту гэтага народа, сённяшняму стану, намаганням, што прыкладаюцца па іх зберажэнні і ўзбагачэнні.

--- x x x ---

Аўтары навукова-папулярнага нарыса пра татар С.Думін і І.Канапацкі звярнуліся у рэдакцыю "Байрама", каб на яго старонках выказаць падзяку усім тым, хто дачыніўся да "нараджэння" гэтай кнігі. Гэта мы робім з вялікім задавальненнем.

У выдавецтве "Полымя", дырэктарам якога з"уляецца спадар М.А. Іванс[illegible]іч, задумана і ужо здзяйсняецца серыя кніг пад рубрыкай "На зямлі Беларускай у згодзе". Памер кнігі -- да II аўтарскіх аркушаў, быў абумоўлены да напісання рукапісу. Асноўную працу з кнігай узяла на сябе спадарыня рэдактар В.І.Дрозд. Вялікі клопат мела спадарства: мастацкі рэдактар І.А.Дзямкоўскі, тэхнічны рэдактар А.В.Сторажава, карэктары Г.В.Алешка, Я.А.Лукошка, аператар Л.А. Кулакоўская. Усе яны працавалі па рэжысуры загадчыцы рэдакцыі Л.І.Круглавай. Мастацкае афармленне кнігі У.І. Фандулева. На вокладцы фотарэпрадукцыя з карціны У.В.Кішкевіча.

Вялікую удзячнасць ад згуртавання "Аль-Кітаб" выказваем Народнаму паэту Беларусі, дзяржаўнаму дзеячу Н.С.Гілевічу, які на працягу многіх гадоў з"яўляецца добрым апекуном нашага татарскага народа.

## БУДЗЬМА ШАНАВАЦЬ СВАЕ СВЯТА — ПЯТНІЦУ

У наш час вельмі цяжка быць адданым ідэі веры і справядлівасці. Я схіляю галаву перад тымі, хто па-сапраўднаму верыць у Аллага і выконвае абавязкі мусульманіна. Яны з"яўляюцца для нас прыкладам. Добрыя словы, разумныя парады, спагадлівасць гэтых людзей — усё гэта выклікае ў нас любоў і павагу да такіх мусульман.

Я бясконца ўдзячна сваім дзядулі і бабулі. Яны навучылі мяне чытаць святы Кур"ан, пяць разоў у суткі адпраўляць малітву — намаз. Аллаг даравау маім родным лёгкую смерць.

Мяне засмучае, што многія не ведаюць і не ўмеюць шанаваць па-сапраўднаму наша мусульманскае свята — пятніцу. Тым, хто працуе на прадпрыемствах і ва ўстановах, трэба выконваць у рабочы час свае абавязкі. Але мыццё бялізны, вялікую прыборку ў пакоях лепш рабіць у іншыя дні. У пятніцу трэба пакінуць усякія спрэчкі і "разборкі", заставацца з чыстымі думкамі і добрым сэрцам.

Пятніца — вялікае свята. Там, дзе ёсць мячэці, важна, каб яны ў гэты дзень не пуставалі, каб сюды хадзілі не толькі людзі старэйшага ўзросту, але і моладзь. Трэба жыць, спадзяючыся на Аллага, Яго волю, Яго законы. Тады жыццё палепшыцца, напоўніцца пачуццём свабоды і гармоніі.

## СТВОРАНА ПЕРШАЯ МУСУЛЬМАНСКАЯ АБШЧЫНА НА БЕРАСЦЕЙШЧЫНЕ

У невялікім, але старажытным горадзе Ляхавічы ( вядомы з XV ст. ) на Берасцейшчыне жыве 65 душ татар-мусульман. Сярод мясцовага, пераважна беларускага насельніцтва яны вядомы як сумленныя працавітыя людзі, якія зарабляюць сабе на хлеб на прадпрыемствах, ва ўстановах, на сваіх прысядзібных участках.

Татар аб"ядноўвае мусульманская вера, агульная гісторыя паходжання продкаў з зямель Паволжа і Крыма, агульны лёс на працягу многіх гадоў мірнай працы і ліхалецця.

19 шаўбана 1413 г. Хіджра ( 12 лютага 1993 г. ) вечарам у гасцінным доме Якуба Міцкевіча сабраліся мясцовыя татары. Урачыстыя, па-святочнаму ўбраныя яны прыйшлі, каб стварыць мусульманскую абшчыну. Старэйшыя людзі памятаюць, што даўней тут была мячэць,

што у Ляхавічах нарадзіуся Якуб Шынкевіч — мусульманскі муфтэй і вучоны, якога ведалі і высока цанілі кіраунікі Польшчы і навукоуцы многіх замежных краін.

Па запрашэнні ляхавіцкіх татарау і даручэнні Менскай мусульманскай абшчыны я прыняу удзел у гэтым сходзе. Расказау зацікауленым слухачам пра мусульманскі рух на Беларусі, пра справы менскіх татарау, пра мусульманскія абшчыны на Гродзеншчыне. Адказау на пытанні, у тым ліку і пра тое, ці будуць ляхавіцкія татары атрымліваць мусульманскую літаратуру і квартальнік "Байрам". Затым перайшлі да афіцыйнай часткі сходу. Быу абраны прэзідыум, зацверджаны парадак дня. Усе прысутныя пажадалі стаць удзельнікамі мусульманскай абшчыны. Пасля абмеркавалі статут, зрабілі некалькі удакладненняу і зацвердзілі.

Абмеркавалі кандыдатуры у кіроуны орган — Раду. Адзінагалосна былі выбраны старшыня — Байрашэускі Рашыд Іванавіч ( Ях"яевіч ); намеснік старшыні — Мурзіч Якуб Асманавіч; ганаровы старшыня — Мурзіч Якуб Захаравіч; скарбніца — Багушэвіч Халіма Мустафауна. Была абрана таксама Рэвізійная камісія у складзе трох чалавек: Гембіцкі Ібрагім Якубавіч — старшыня; Міцкевіч Роза Сулейманауна — намеснік старшыні; Багушэвіч Сямен Міхайлавіч — член камісіі.

Пажадаем гэтай адроджанай мусульманскай абшчыне плённай працы, увагі да хворых і нямоглых, радасці і шчасця у кожнай мусульманскай сям"і.

## МУХАЙАМ — МУСУЛЬМАНСКІ ЛАГЕР

Для беларускіх татарау рэлігія вельмі многа значыць. Іслам, зберажоны імі на славянскіх землях, адрознівае татарау ад беларусау. Каб мы не забылі сваю гісторыю, традыцыі, спадчыну, якую пакінулі нашы продкі, у час зімовых канікулау быу арганізаваны у Стайках лагер у прыгожай мясцовасці — Стайках, недалёка ад Менска.

Сюды з"ехаліся дзеці, юнакі і дзяучаты, людзі старэйшага узросту з розных куткоу Беларусі — Клецка, Навагрудка, Гродна, Іуя, Менска. Мэта — вывучэнне асноу Ісламу і навучання малітвам.

Спачатку справы ішлі не вельмі гладка. Трэба было вельмі рана уставаць, падпарадкоувацца адзінаму рэжыму — пяць разоу у суткі здзяйсняць намаз, завучваць на памяць суры з Кур"ана, дуа.

Але нашы настаўнікі — студэнты-арабы з менскіх ВНУ — былі такімі тактоўнымі, уважлівымі і настойлівымі, што невялікія непаразуменні адышлі на другі план. Праз некалькі дзён дзеці і моладзь прызвычаіліся да парадку, адчулі, што ёсць поспехі ў вучобе.

Вядома, не ўвесь час маліліся і чыталі. Былі спартыўныя гульні, мастацкая самадзейнасць, цікавыя лекцыі. У лагеры дзеці і маладыя людзі пазнаёміліся з аднагодкамі і паклалі пачатак сяброўству.

Дзякуй нашым настаўнікам-арабам і кіраўнікам "Аль-Кітаба" за такія канікулы. Спадзяемся на сустрэчу з вамі ў час летняга адпачынку.

## УСПАМІНЫ ІБРАГІМА СМАЙКЕВІЧА — ІМАМА ВІЛЕНСКАЙ МЯЧЭЦІ

У сакавіку 1923 г. у салоне Дома афіцэраў Віленскага гарнізона сабраліся прадстаўнікі розных грамадскіх арганізацый і духавенства, каб прывітаць народнага правадыра, Начальніка Польскай Дзяржавы Юзафа Пілсудскага.

Вочы усіх сабраных былі скіраваны на дзверы, у якія меў увайсці і дзе мы неўзабаве ўбачылі любую нам постаць Каменданта ў звычайнай форме легіянера. Ён зняў шапку, адперазаў дзягу з шабляй і паклаў на стале ў пачакальні, увайшоў у салон і з лагоднай усмешкай павітаўся з усімі сабранымі. Можа праз паўгадзіны ад"ютант запрасіў у кабінет Юзафа Пілсудскага дэлегацыю польскіх татараў. Са мною быў і мой сын Алі.

Хутка пачалася гаворка пра ўдзел польскіх татараў у гісторыі Польшчы ад часоў XV ст. аж да сучаснасці. У гаворцы згадаў Маршал некалькі прозвішчаў людзей, якіх ён асабіста ведаў: Стафана Беляка, Аляксандра Сулькевіча і Аляксандра Ахматовіча, з якімі ён калегаваў і супрацоўнічаў. Падкрэсліваючы заслугі татар перад Польшчай, ён сказаў: "Вельмі засмучае мяне страта тых двух — Стафана, добрага прыяцеля маладосці, другога ( г.зн. Аляксандра), які ў значнай меры дачыніўся да майго вызвалення з рускіх казематаў і памяць аб ім — Чорным Міхале — глыбока застаецца ў маім сэрцы. Ён загінуў як сапраўдны татарын-герой на полі бітвы, чэсць яго памяці". З гэтымі словамі ён устаў і пастаяў некалькі хвілін у задуменні.

Далей размова ішла пра будаўніцтва мячэцяў у Польшчы ( вінава-

тай ва усіх разбурэннях у час першай сусветнай вайны была прызнана Германія і за яе кошт павінны былі аднавіць і спаленыя у час вайны храмы — заувага рэд. ).

У агульных рысах я абмалявау сучасны стан татар, адзначыушы, што да гэтага часу яны не атрымалі дапамогі ад урада на рамонт і адбудову. Духавенства не атрымлівае ніякай дапамогі, а уласных сродкау мусульманскае грамадства на гэта не мае. Усё гэта Маршал сказау занатаваць і з свайго боку абяцау падтрымку ва усіх справах, якія датычацца жыцця польскіх татар. Напрыканцы Маршал парaiу мне па усіх пытаннях, што датычацца рэлігіі, звяртацца да пана Аляксандра Ахматовіча, які яму аб усім павядоміць. "З панам Аляксандрам Ахматовічам, — як сказау Маршал, — сядзеу на адной лауцы у гімназіі і звязвае нас даунае сяброуства.".

І калі паусюдна называлі Юзафа Пілсудскага Вялікім Будауніком Польшчы, то пацвярджэнне гэтаму можна знайсці нават у арганізацыі жыцця татар, бо па яго ініцыятыве неузабаве прыехау у Вільню міністр да спрау рэлігіі і народнай асветы. На аудыенцыі у яго я зноу паставіу пытанне аб сродках на рамонт мячэці у Вільні, будауніцтва парафіяльнага дома і заработнай плаце для імамау Польшчы.

Далей развіццё жыцця польскіх татарау пайшло сваей дарогай. Настау дзень 12 мая 1935 г. Няумольная смерць забрала у нас самага дарагога для нас чалавека — Вялікага Маршала Польшчы Юзафа Пілсудскага, але не забрала у нас Яго дух, які заусёды будзе нам асвятляць шлях да слаунай будучыні нашай Радзімы.

## ПОМНЮ ТОЙ СТРАШНЫ ЧАС

Быу сонечны дзень. Вакол лясы, палеткі, на якіх каласуе жыта, пах свежаскошанай травы, гул шмялёу. Мы у піянерскім лагеры, што каля чыгуначнай станцыі Калодзішчы. Спачатку мы дзеці не разумелі, чаму нашы выхавацелькі і піянерважатыя між сабой размауляюць у паугаласа. Яны, відаць, не хацелі палохаць нас, што пачалася вайна і з трывогай глядзелі на малых.

Неяк ноччу нас разбудзілі. Мы хутка адзеліся, але цяплейшае адзенне узяць не маглі: каморкі былі замкнёныя, а ключы не знайшлі. Над Менскам стаяла зарава, чуліся выбухі.

Па палявых дарогах і лясных сцежках павялі нас на гасцінец. Глыбокія варонкі ад бомбау, перакуленая тэхніка, трупы дзяцей, жанчын і вайскоуцау — вось што мы убачылі тут. Гарэла збажына.

Нас зноў павялі праз лес і хмызняк. Мучыла смага і знямота. Зайшлі ў школу. Старажыха напаіла нас, накарміла бульбаю, зваранай у "мундзірах".

Наперадзе было мястэчка Смілавічы. Я ведала, што тут жыве наша радня — цёця Канапацкая. Распытала аб ёй людзей. Цётку знайшла і з дазволу важатай засталася ў яе.

Жывучы ў цёці, неаднойчы давялося перажыць страх. Па Дукорскай вуліцы фашысты гналі палонных чырвонаармейцаў. Адзін з іх спрабаваў уцячы, і яго застрэліў канваір. Пасля такія выпадкі здараліся часта.

Пакуль была ў піянерскім лагеры і ў цёці, мае родныя не раз траплялі пад бамбёжку. Бацьку параніла ў жывот, маці ў нагу, старэйшага брата кантузіла, а малодшага засыпала зямлёй. Праз нейкі час я вярнулася да сваіх у Менск. Жылі мы ў доме бабулі Фацімы.

У 1942 г. я выпадкова аказалася каля драматычнага тэатра. У скверы пакаралі смерцю двух мужчын і жанчыну. Фашысты прымусілі нас на гэта глядзець.

У акупаваным Менску страшна было усім. Немец ці паліцай мог у любым месцы і ў любы час застрэліць чалавека толькі таму, што ён быў габрэй, ці падобны на габрэя, а татары, як вядома, маюць такое падабенства. Ды і жылі мы паблізу ад гета, абгароджанага дротам. Тут заўсёды цягаліся п"яныя паліцаі і сустрэцца з імі было вельмі небяспечна.

На Вялікай Татарскай вуліцы прайшло мае дзяцінства і юнацтва. Вучылася, працавала. Усё чакала, што дажыву да лепшых часоў. Але жыццё праходзіць. Толькі недзе ў лабірынце свядомасці час ад часу бліcне надзея: а раптам пашле мне Аллах лепшую долю.

## ВЕЛЬМІ ЦІКАВЫ ДАВЕДНІК

Выдавецтва "Казань" у 1992 г. выпусціла ў свет кнігу Альфрэда Хасанавіча Халікава "500 русских фамилий булгаро-татарского происхождения" на рускай і татарскай мовах. Тэкст паралельны ( злева па-руску, справа па-татарску ). Аказваецца, што многія і многія вядомыя рускія людзі маюць татарскае паходжанне. Але не усімі мы можам ганарыцца, бо сярод іх былі і ворагі татар.

Падаем толькі некалькі прозвішчаў: Агаровы, Аксакавы, Аляб"евы, Апраксіны, Аракчэевы, Арсеньевы, Атласавы, Ахматавы, Балакіравы, Бібікавы, Булгарыны, Бутурліны, Глінскія, Гадуновы, Гарчаковы,

Дашковы, Дзяржавіны, Загоскіны, Карамзіны, Калантаі, Качубеі, Корсакавы, Купрыны, Кутузавы, Маміны, Масальскія, Мусіны-Пушкіны, Нарышкіны, Пажарскія, Радзішчавы, Раманавы, Рахманінавы, Скрабіны, Суворавы, Тацішчавы, Тургеневы, Тухачэўскія, Уваравы, Урусавы, Ушаковы, Ханыкавы, Хітровы, Ціміразевы, Чаадаевы, Чырыкавы, Шахматавы, Шышкіны, Юсупавы, Юшковы, Языкавы.

Некаторым з гэтых славутых людзей было недаспадобы паходжанне з татарскага народа і яны прыдумалі сабе нямецкае, шведскае і іншае радство і сваяцтва. Некаторыя даследчыкі будуць прыводзіць доказы па розных крыніцах і выказваннях. Няхай. Толькі калі крышачку падумаць, то ўсе мы маем з славутымі і не вельмі агульную радню — Адама і Хаву ( Еву ), ну а калі хто-небудзь паходзіць ад малпы, то мы спрачацца не будзем.

Дзякуй Халікаву за цікавую кнігу, дзякуй казанскім татарам, што яны падаравалі нам вельмі патрэбны даведнік.

## Я ТУТ СЯРОД СВАІХ

У пачатку 1990 г. даведалася, што ў Менску створана грамадска-культурнае аб"яднанне, што татары збіраюцца па пятніцах вечарам. І я пайшла пазнаёміцца з гэтымі людзьмі. Тут убачыла татарскія твары, пачула іх гаворку. Большасць размаўляюць між сабою па-беларуску. За доўгія гады жыцця сярод беларусаў яны забылі сваю родную мову і асвоілі мову той большасці, сярод якой жыве можа ўжо 18 — 19 пакаленне. Мяне ўразіла тое, што гэтыя людзі не забыліся нашай мусульманскай веры, некаторыя ўмеюць чытаць Кур"ан і ведаюць некаторыя суры на памяць. А тыя, што не ведаюць арабскай графікі, шчыра стараюцца яе вывучыць, хоць многія з іх ужо даволі пажылыя. Галоўнае — татары атрымалі мусульманскае выхаванне і гэта адчуваецца ва ўсім.

Мне спадабалася гасціннасць тутэйшых татараў і я пазней стала прыходзіць сюды са сваёй сястрой, якая пераехала ў Менск з Прыбалтыкі, потым і мая дачка сюды стала заходзіць ды час ад часу разам са сваімі хлопчыкамі.

Падабаюцца мне жанчыны-татаркі — Лілія Канарская, Алія Усманава, Альміра Александровіч, Фаўзія Ахмадуліна, Роза Шарыпава — падабаюцца ўсе, толькі месца мала і за адзін раз, няхай прабачаць мне, што не ўсіх называю. Рада я, што некаторыя жанчыны ведаюць татарскую мову і я магу з імі паразмаўляць па-свойму, як бы пабываць на радзіме. Шкада, што з некалькіх соцень казанскіх татар,

якія жывуць у Менску, прыходзіць сюды толькі некалькі. Можа яны баяцца, што па пятніцах размова у нас ідзе пра нашу мусульманскую веру. Бо за гады савецкай улады афіцыйная прапаганда вернікау лічыла амаль што ненармальнымі людзьмі, або ворагамі Камуністычнай партыі. А каму хацелася, каб цябе лічылі ворагам улады, ды калі ты яшчэ працуеш у савецкай установе і да пенсіі яшчэ далёка.

На нашых пятнічных зборах гаворка ідзе і пра татарскія справы у Татарстане. Выпісваем казанскія газеты і часопісы, час ад часу нам дасылаюць добрыя мусульмане з Казані і Набярэжных Чаунлоу газеты і часопісы, проста так, без ніякай аплаты, як гэта прынята у мусульман. Сціпласць гэтых людзей настолькі вялікая, што нам нават цяжка сказаць ім рахмат — дзякуй, бо поунага адраса яны не падаюць.

На нашых зборах можа выступіць кожны. Заусёды прыемна слухаць нашага прэзідэнта згуртавання А.Шабановіча. Гэта аутарытэтны спецыяліст-педагог, дырэктар гімназіі, гісторык па адукацыі, спартыунага выгляду ( і не дзіва, бо ён скончыу яшчэ інстытут фізічнай культуры ). Намеснік прэзідэнта — І.Канапацкі, кандыдат гістарычных навук, дацэнт Менскага педагагічнага інстытута, аутар шматлікіх навуковых артыкулау, некалькіх кніг, сааутар ( разам з С.Думіным ) навукова-папулярнай кнігі "Беларускія татары. Мінулае і сучаснасць ", якая выйшла у свет у пачатку 1993 г.

Вельмі абаяльны чалавек Ісмаіл Ісмаілавіч Меметау, ветэран Вялікай Айчыннай вайны, падпалкоунік, узнагароджаны шматлікімі ордэнамі і медалямі як савецкімі, так і польскімі. Ён вучыць нас крымскататарскай мове і таму, як трэба любіць свой народ. Нягледзячы на немалады узрост, ён прыходзіць кожную пятніцу, знаёміць з падзеямі у Крыме, друкуе свае палымяныя артыкулы у крымскататарскай прэсе, у квартальніку "Байрам", а таксама вядзе пастаянную рубрыку — беларуска-крымскататарскі слоунік. Не раз І.Меметау запрашау на нашы пятніцы цікавых людзей — сваіх гасцей — крымскіх татар і мы слухалі іх з вялікай цікавасцю і пазнавальнай карысцю.

Яркі прадстаунік беларускіх татарау — І.Александровіч, член праулення згуртавання. Відны спецыяліст у галіне будауніцтва ён многа робіць для адбудовы мячэці у Менску. Прыгожа піша арабскімі літарамі, умее чытаць Кур"ан, татарскія святыя кнігі —

Кітабы. Выдатны арганізатар, дастойна прадстауляе наша згуртаванне на розных міжнацыянальных сходах, на мусульманскіх канферэнцыях у Беларусі і за яе межамі".

І.Варановіч, не гледзячы на вялікую занятасць на асноунай рабоце, знаходзіць час і для грамадскай працы на карысць "Аль-Кітаба". Цяжка уявіць, як без яго правялі б мусульманскую канферэнцыю, мусульманскі лагер для дзяцей і моладзі, ажыццявілі сувязь з мусульманскімі джаміятамі.

Вельмі добра, што у жыцці нашага згуртавання прымаюць удзел і вядомыя артысты-татары, якія разам са сваімі беларускімі калегамі далі добры канцэрт пасля татарскай канферэнцыі. Парадавалі слухачоу салісткі Нагіма Галеева і Флора Дуднік, вялікую асалоду мелі мы ад выканання найскладанейшых п"ес гітарыстам-віртуозам Нарыманам Гайфулiным".

Нашы добрыя сябры — арабы-студэнты выканалі цудоуныя арабскія песні, якія праслауляюць Аллага і яго пасланніка — Мухаммеда.

Дарагія мае суплямennікі — казанскія татары! Прыходзьце да нас, каб сябе паказаць і другіх паглядзець. Не пашкадуеце.

## Новая кніга

## ТАТАРЫ І ТАТАРСТАН

Алсу Ярулліна і Гузель Вайда — навуковыя супрацоунікі з Казані, якія працуюць над стварэннем Татарскай Энцыклапедыі, днямі даслалі нам кнігу "Татары і Татарстан", якая надрукавана парускy тыражом 4 тыс. паасобнікау ( тыраж па-татарску, відаць, намнога большы ). Кніга пазначана 1993 г., звесткі вельмі свежыя — на 1992 г. Укладальнік даведніка — Р.М.Мухаметшын. Аутары артыкулау пазначаны у канцы кнігі ( у мусульман важна не хто сказау ці напісау, але што сказана і напісана ).

У гэтай кніжцы, зразумела, шмат табліц. Ёсць і вельмі цікавыя для чытачоу тэкставыя матэрыялы. З дазволу аутарау ( мы папросім іх аб гэтым ) "Байрам" перадрукуе некаторыя артыкулы.

У раздзеле РЭЛІГІЯ ( аутары Я.Абдуллін і Р.Мусіна ) сярод іншага такія лічбы: у Татарстане у 1988 г. было 19 мусульманскіх абшчын, у 1989 г. — 53, у 1990 г. — 170, у 1991 г. — 208 !

Рахмат аутарам даведніка, рахмат Алсу і Гузель !

Беларускія татары.

# СЁСТРЫ-ПЕДАГОГІ

Напярэдадні татарскай навуковай канферэнцыі арганізацыйны камітэт разаслаў анкеты з пытаннямі, дзе і як працуюць нашы татары-педагогі. На нашыя лісты мы атрымалі не проста адказы, а невялікія аповяды. Тут мы паспрабавалі аб"яднаць лісты дзвюх сясцёр-педагогаў — Айшы Саладухінай і Альміры Александровіч. Гэта мы робім не дзеля таго, каб паказаць адметнасць іх жыцця, а таму, што ў іх жыцці многа такога, што з"яўляецца характэрным для мясцовых татар.

У сям"і Карыцкага Аляксандра і Зоні ( з Сабалеўскіх ) з вёскі Іванава Нясвіжскага раёна нарадзіліся і выраслі тры дачкі: Эмілія ( 1927 ), Айша ( 1928 ) і Альміра ( 1931 ). У той час у вёсцы Іванава жыло многа татар, якія складалі можа чацвёртую частку насельніцтва. Татары жылі і ў недалёкіх ад Іванава мясцінах: Нясвіжы, Клецку, Ардзе. Старэйшыя сёстры вучыліся ў польскай школе, завяршылі вучобу ў Ланскай сярэдняй школе. Далей вучобу ўсе сёстры працягвалі ў вышэйшых навучальных установах. З іх лістоў мы даведаліся, што Айша ў 1951 г. скончыла Пінскі дзяржаўны настаўніцкі інстытут, а Альміра ў тым жа годзе Баранавіцкі настаўніцкі інстытут. Абедзве атрымалі спецыяльнасць настаўніц беларускай мовы і літаратуры. Старэйшая сястра Эмілія — настаўніца біялогіі.

Месца працы для кожнай стала і месцам далейшага жыцця, месцам стварэння сям"і. Для Эміліі такім месцам стала Гродна. Тут яна працавала настаўніцай біялогіі ў школе. Двое яе дзяцей таксама педагогі, дачка — настаўніца матэматыкі, сын — выкладчык Гродзенскага універсітэта.

Айша пасялілася ў вёсцы Моталь Брэсцкай вобласці. У школе выкладала беларускую і нямецкую мовы, муж да пенсіі таксама працаваў настаўнікам. Нарадзіла і выхавала двух сыноў.

Працоўная дзейнасць Альміры ( ў школе вучні называлі яе Ліліяй Аляксандраўнай ) пачалася ў Ляхавічах. Сярод яе вучняў былі і татары: Мурзічы Энвер і Альжуня, Багдановіч Алік, Лебедзь Алік, Шчансновіч Алік. У 1955 годзе выйшла замуж і з той пары жыве ў Наваградку. Тут многа радні мужа і татар наогул. Мае двух дзяцей, старэйшая дачка таксама педагог — скончыла Беларускі дзяржаўны універсітэт. З восені да вясны Альміра Аляксандраўна жыве ў Менску, прыходзіць на заняткі ў "Аль-Кітаб", прымае удзел у розных

мерапрыемствах.

Зараз, калі сёстры на пенсіі, яны таксама не сядзяць без справы. Умеюць вышываць, прасці, рабіць прыгожыя рэчы на прутках і кручком, любяць працу у агародзе. У час адпачынку чытаюць мастацкую літаратуру, татарскую газету "Татар иле" ( на рускай мове) і іншыя казанскататарскія газеты і часопісы, мусульманскія перыядычныя выданні на польскай мове, квартальнік "Байрам". З задавальненнем слухаюць па радыё выступленні Ібрагіма Канапацкага, расказы пра жыццё татар ( аутарскія перадачы Рэгіны Гамзовіч і інш. ). Вялікую асалоду атрымліваюць, як напэуна і кожны з нас, ад сустрэчы з татарамі з Клецка, Навагрудка, Іуя, Ляхавіч, Вільні. У згодзе жывуць яны і з сем"ямі асноунага насельніцтва — беларусамі, мясцовымі палякамі. Радуюцца пераменам у грамадскім жыцці, магчымасці мець больш цесныя сувязі са сваімі суродзічамі і магчымасці спасцігаць больш глыбока веды з гісторыі свайго народа і яго рэлігіі — Ісламу.

На заканчэнне мы хочам зрабіць выснову, што вялікая колькасць татар заусёды цягнулася да ведау, да набыцця адукацыі. Многія з тых, хто скончыу сярэднія спецыяльныя школы і вышэйшыя навучальныя установы сталі настаунікамі. Сярод іх многія настаунікі беларускай мовы, якая для іх родная, паважаная і любімая. Так што прафесія настауніка — характэрная для татар.

---

Наступны матэрыял — гэта як бы працяг размовы пра татар-педагогау. Мы змяшчаем слова спадара Анатоля Бельскага пра славутага даследчыка, педагога і пісьменніка Сцяпана Александровіча. У якасці загалоука для артыкула у "Байрам" мы узялі выказванне Піліпа Пестрака пра С. Александровіча.

ДАЙ БОГ, КАБ КОЖНЫ БЕЛАРУС ТАК МОЦНА ЛЮБІУ БЕЛАРУСЬ,
ЯК ГЭТЫ ТАТАРЫН! ДАЙ БОГ!

Нарадзіуся Сцяпан Александровіч 15 снежня 1921 г. у сям"і капыльскіх татарау. Бацька працавау у гарбарнай майстэрні. З 1929 да 1939 года Сцяпан вучыуся у сярэдняй школе № 1, паступіу на філалагічны факультэт, але вучоба перапынілася: узялі у войска. Ваявау з фашыстамі, у 1942 параненым трапіу у палон, затым уцёк у жніуні 1942 г., пайшоу у партызаны. Быу сувязным партызанскай брыгады імя Чапаева. Пасля вайны працавау настаунікам у Навасельні,

у Навагрудку, у Мінскім бібліятэчным тэхнікуме. У 1958 г. С. Александровіч абараніў кандыдацкую дысертацыю і пачаў працаваць ст. навуковым супрацоўнікам у Акадэміі навук Беларусі. У 1955 г. ён быў прыняты ў саюз пісьменнікаў Беларусі. Доктарам філалагічных навук стаў у 1972 г., прафесарам — у 1974 г. Працаваў загадчыкам кафедры ў БДУ. Аўтар шматлікіх кніг і артыкулаў. У 1959 годзе выйшла кніга "Незабыўнымі сцежкамі", "Па слядах паэтычнай легенды" ( 1965 ), "Тут зямля такая" ( 1974 ), аповесці "Ад роднае зямлі..." ( 1962 ) і "На шырокі прастор" ( 1972 ) — пра жыццё і творчасць Якуба Коласа, "Далёкія зарніцы" ( 1967 ) — пра гераізм нашага народа ў Айчынную вайну. Адна з найвялікшых заслуг вучонага — даследаванне пра Аляксандра Незабытоўскага — польскага і беларускага пісьменніка, філосафа, гісторыка. Быў арыштаваны царскімі ўладамі, пазбаўлены дваранскіх і маёмасных правоў і 20-гадовай катаргі ў сібірскіх рудніках ( памёр да выканання прыгавору ). Кніга С.Александровіча "Вальнадумца з-пад Нясвіжа Аляксандр Незабытоўскі" выйшла ў 1975 г. Асобна хачу сказаць пра кнігу "Слова — багацце " ( 1981 ). Тут С.Александровіч сабраў матэрыялы пра Купалу. Коласа. Гартнага. Чорнага. Для капылян вельмі дорага тое, што С.Александровіч з вялікім замілаваннем пісаў пра Чорнага — Мікалая Карлавіча Раманоўскага, славутага пісьменніка — беларускага Бальзака. Эпіграфам для гэтай кнігі С.Александровіч узяў словы Кузьмы Чорнага: "Родныя мае мясціны ... Там жывуць усе мае персанажы. Усе дарогі, пейзажы, дрэвы , хаты, чалавечыя натуры, пра якія я калі-небудзь пісаў. Гэта ўсё адтуль, сапраўднае".

Сцяпана Хусейнавіча цікавіла гісторыя такіх родных мне Цімкавіч. Александровіч часта бываў тут, гутарыў з вяскоўцамі, якія ведалі Раманоўскага і яго родных, шмат запісваў. У маім вершы пра радзіму Чорнага гаворыцца:

Якi чароўны ён і звонкі
Радзімы Чорнага куток !
Цвіце чабор, і медуніца
Панесла свой гарачы пах.
І сэрца, чуйная крыніца,
Мацней забілася ў грудзях.

І як тут люба і прыгожа
Дзе нарадзіўся й вырас я.
Шумі чароўны лес Скіп"еўскі,
Квітней як сад, зямля мая !

Як вучоны Сцяпан Александровіч часта працаваў у розных бібліятэках і архівах, у тым ліку ў Кракаве і ў Чэхіі ў Празе. І рабіў гета ён дзеля таго, каб вярнуць беларускаму народу забытыя імёны заснавальнікаў і класікаў беларускай літаратуры. Гэтую шчырую працу на карысць Беларусі высока цаніў Пілiп Пестрак.

Сёння ў час адраджэння беларускай культуры нам ёсць аб чым падумаць. Бо яшчэ чутны нядобрыя словы пра нашу беларускую мову. Змагацца за сваю беларускую культуру трэба усім, хто лічыць Беларусь сваей Айчынай. І сёння прыкладам служэння Беларусі застаецца Сцяпан Александровіч, як многія і многія беларускія татары.

Сваё выступленне хачу завяршыць апошнімі радкамі верша, які напісаў да гэтай важнай канферэнцыі:

Няхай жа на гэтай
Нашай сустрэчы
Гучаць будуць толькі прыемныя рэчы.
Жывіце, татары, сумленныя людзі
Век гэта зямля вам Айчынаю будзе !

---

"Байрам" змяшчае некалькі матэрыялаў, якія перадалі нам паволжскія татары, што жывуць на Беларусі і крыху пазнаёміліся з беларускімі татарамі і іх справамі. Спадзяемся, што азнаёміўшыся з гэтымі артыкуламі да нашага "Аль-Кітаба" далучыцца хоць бы невялікая колькасць нашых супляменнікаў і адзінаверцаў.

ИСӘНМЕСЕЗ ! ОЧРАШУЫБЫЗ ВИК ЯХШЫ БУЛДЫ !
ДОБРЫ ДЗЕНЬ ! ЯК ДОБРА, ШТО МЫ З ВАМІ СУСТРЭЛІСЯ !

Пасля завяршэння вучобы ў Маскоўскім інстытуце геадэзіі, аэрафотаздымкі і картаграфіі ў 1966 г. я атрымала накіраванне у Менск, далёка ад сваіх родных мясцін. У пошуках прыватнай кватэры я аказалася на Танкавай вуліцы. Гаспадыня, да якой я звярнулася з пытаннем, ці не ведае яна каго-небудзь, хто здае пакойчык, паглядзела на мяне уважліва і спытала, адкуль я родам і хто мае бацькі. Даведаўшыся, што я татарка, яна неяк абрадавалася і сказала, што яна таксама татарка, што прозвішча яе Варановіч. Тады я здзівілася, што прозвішча у яе не татарскае, што роднай мовы яна

не ведае. Толькі значна пазней я зразумела, чаму беларускія татары забыліся на родную мову. Бо татары з Паволжа, якія кампактна жывуць у гарадах і вёсках, сярод сваіх, за апошнія дзесяцігоддзі страцілі сваю мову, амаль палавіна з іх, паводле перапісу, карыстаецца толькі рускай мовай. Ды што аб гэтым сказаць, спытайце сябе, ці навучылі вы сваіх дзяцей і унукаў татарскай мове. А калі не прозвішчы, то імёны вельмі сталі дзіўныя, яны не татарскія і не мусульманскія.

Аднойчы шпацыруючы па горадзе я і мая маці аказаліся на могілках ( цяпер яны разбураны і ператвораны у скверык ), убачылі надмагіллі з выявамі зоркі і месяца, арабскімі словамі і прозвішчамі і імёнамі. Сярод імён многія аказаліся звычныя нам, мусульманскія.

І вось, праз 25 гадоў з таго часу я даведалася, што на Беларусі шмат татар, якія збераглі мусульманскую веру, звычаі і любоў да сваей нацыянальнасці. У Менску створана татарскае згуртаванне "Аль-Кітаб", дзейнасць якога даволі разнастайная: вывучэнне арабскай графікі, гісторыі Ісламу, малітваў на усе выпадкі жыцця, наладжванне татарскіх вечарын.

У маладосці мне не было магчымасці быць сярод мусульман, а цяпер з задавальненнем пазнаю мудрасць маіх продкаў — Іслам.

Нам, татарам з Паволжа і Урала, якія апынуліся далёка ад сваіх родных мясцін, прыемна наведаць заняткі у "Аль-Кітабе", пагутарыць на роднай мове з раскіданымі па вялізным горадзе сваімі супляменнікамі, назіраць за адраджэннем Ісламу. Добрага вам здароўя і дабрабыту, мае супляменнікі.

Сау булыгыз ! Килегез ! Да пабачэння ! Заходзьце !

## КАЛІНІНГРАД І ТАТАРЫ-КАЛІНІНГРАДЦЫ

У Калінінградзе прайшлі лепшыя гады майго жыцця. Калі я прыехала туды, мне здавалася, што гэта самы прыгожы і зялёны горад. У пачатку пяцідзесятых гадоў было яшчэ многа руін, але збераглiся і вялікія, як бы сёння сказаць, грамадскія будынкі і шматлікія асабнякі, утульныя, парослыя дзікім вінаградам і іншымі ліянападобнымі раслінамі, шматлікія кветнікі уздоўж вуліц, добры асфальт, пакладзены на брук. Нават пасля вялікіх дажджоў не было прыкрых калужын на дарогах. Вельмі шмат было бэзу. Невялікія трамваі ішлі як бы па зялёных тунелях. Можна бясконца расказваць, які гэта быў

цудоўны горад. Мне часта даводзілася гутарыць з бывалымі людзьмі, якія аб"ездзілі амаль усе партовыя гарады свету. Яны таксама былі тае думкі, што Калінінградам можна было любавацца.

Апошнія дзесяць гадоў я жыла у Літве і даволі часта бывала ў Калінінградзе. Але цяпер ужо ад былой прыгажосці амаль нічога не засталося, усё збэшчана, зап...чана, а пра ўскраіны і казаць няма чаго, бо прыходзіш у роспач ад варварства.

Можа тым людзям, якія жывуць у Калінінградзе і другіх рускіх гарадах горад не здаецца такім ужо брудным і брыдкім, але у параўнанні з еўрапейскай чысцінёй тут жахліва.

Напрыканцы лютага мне зноў давялося пабываць у горадзе сваей маладосці — Калінінградзе. Не ўсхвалявала мяне сустрэча са знаёмымі вуліцамі і плошчамі. Беспарадак, беднага у крамах і страшэнныя цэны выклікалі горыч і неўтульнасць. Адно пашанцавала, што удалося пабываць на сустрэчы з татарамі, якія пасяліліся тут пасля вайны, а многія з іх ужо і нарадзіліся у гэтым горадзе.

Татарскае згуртаванне месціцца у будынку палітычнай асветы, дзе арандуецца добрая зала раз у месяц на некалькі гадзін. Многа святла, прыгожыя сталы. Малады энергічны старшыня згуртавання ведае татарскую мову і мае імя, якое добра запамінаецца — Чынгіз ( прозвішча адразу не запамятавала ). Па спецыяльнасці ён архітэктар. Можа таму калінінградскія татары узяліся за пабудову мячэці і маюць ужо праект, шукаюць адпаведную пляцоўку. Думаюць татары і пра тое, каб вылучылі месца на могілках для памерлых мусульман, бо жыццё ёсць жыццё, а смерць непазбежная.

Большасць калінінградскіх татараў ведаюць родную мову і карыстаюцца ёю пры сустрэчах і дома, але без школы лексіка звужаецца да некалькі тысяч слоў і вельмі збядняецца. Таму татары збіраюцца арганізаваць для дзяцей і дарослых нядзельную школу. Знайшлі і настаўніцу, якая скончыла філалагічны факультэт Уфімскага універсітэта.

Татары жывуць у згодзе з іншымі мусульманамі, з прадстаўнікамі іншых нацыянальных згуртаванняў ( азербайджанцамі, беларусамі, габрэямі ) арганізуюць сумесныя мерапрыемствы, вырашаюць розныя пытанні.

Мне вельмі спадабалася выступленне аднаго мусульманіна на гэтым зборы. Ён расказау пра пост Уразу, які якраз неўзабаве павінен быу распачацца, пра тое, як павінны паводзіць сябе мусульмане у час посту і пасля яго, пра клопат аб бедных і нямоглых.

У калінінградскіх татар яшчэ няма спонсарау, але у будаунцтве мячэці дапамогу абяцалі каукаэскія мусульмане.

Мяне папрасілі расказаць пра менскіх татар, чым яны займаюцца. Мой расказ выклікау пэуную цікавасць. Тут жа адбылося абмеркаванне кандыдатур тых, хто паедзе на татарскую канферэнцыю у Менск. Мяне крышачку здзівіла, чаму сярод кандыдатау на гэту паездку у якасці гасцей і дакладчыкау не аказалася кіраунікоу згуртавання. Можа пільная праца іх не адпускае, а можа што-іншае.

Пажадаю нашым супляменнікам і адзінаверцам, якія жывуць у Калінінградзе, поспехау у грамадскай працы, добрага здароуя.

## БЕЛАРУСКА-КРЫМСКАТАТАРСКІ СЛОЎНІК

1100 слоу і сказау ад дзядзькі Ісмаіла Меметава

| Беларускае слова | Крымскататарскае слова |
|---|---|
| ой | ой, ай, вай |
| от ( часц. ), от якія справы | ана, бу дайыншлер |
| ох | ох, ах, вах |
| па , па рацэ, па весцы | озен бою, кой ичинде |
| пабегчы | чапмакъ |
| павесці | алып бармакъ |
| павышэнне | котериле |
| паглядзець | бакъмакъ |
| пад | тюбуньде |
| падаць | бермек, алып бермек |
| падзея | адисе |
| падняцца | котерильмек |
| падняць | котермек |
| падобны | ошай |
| падрыхтоука | азирленмек |
| падумаць | тюшуньмек |
| падысці | кельмек, якъынкельмек |
| падыходзіць | келише |
| паехаць | кетмек |

| беларускае слова | крымскататарскае слова |
|---|---|
| пазіцыя | вазиет |
| пазнаць | бильмек, анъламакъ |
| пайсці | кетмек |
| паказаць | костермек |
| паказваць | костермек |
| пакінуць | къалдырмакъ |
| пакласці | коймакъ |
| пакой | ода |
| пакуль | бир парча, шимди |
| палец | пармакъ |
| палітыка | сиясет |
| палітычны | сиясий |
| палка | таякъ |
| паляцець | учмакъ |
| памерці | ольмек |
| паміж, паміж імі | арада, оларнынъ арасында |
| пан | бей, бек, бай |
| панесці | алып кетмек |
| пані | ханум |
| панскі | байларнынъ, бейлернинъ |
| папрасіць | истемек |
| па́ра ( два ) | чифит |
| пара́ ( перыяд ) | вакъыт кельди |
| парадак | низам |
| парог | босакъа |
| партызан | партизан |
| партизанскі | партизанджа |
| партыйны | фыркъалы, тешклят |
| партыя ( арганізацыя ) | фыркъа |
| пасадзіць | сачмакъ |
| паслаць | елламакъ |
| паслухаць | динъле мек |
| пасля | сонъ, сонъра |
| паспець | етишмек |
| паставіць | къоймакъ, тиклемек |

| беларускае слова | крымскататарскае слова |
|---|---|
| пастаянны | эр вакъыт |
| пасяджэнне | топлашув, субетлешув |
| патрабаваць | эмир этмек, истемек |
| патрэбны | керекли |
| пачатак | башы, башлай |
| пачацца | башламакъ |
| пачаць | башламакъ |
| пачуццё | дуйгъу |
| пачуць, чую | ишитмек, иштем |
| пачынаць | башламакъ |
| паэт | шаир |
| перадавы | огде кетмек |
| перамога | енъмек, енъув |
| перш | башта |
| першы | бринджи |
| перыяд | овакъыт, вакъыт |
| песня | тюрку-йыр |
| пець | йырламакъ |
| печ ( наз. ) | оджакъ |
| піва | пиво |
| пірог | кобете |
| пісаць | язмакъ |
| пісьменнік | язджы |
| пісьмо | мектуб |
| піць | ичмек |
| плакаць | агъламакъ |
| план | план |
| плот | исар |
| плошча | мейдан |
| плячо | омуз |
| побач | якъын, янында |
| погляд ( думка ) | фикр |
| поле | чоль, тарла |
| польскі | польдже |
| поп | папаз |
| поспех | муафакъыет |
| потым | сонъра, сонъ |

| беларускае слова | крымскататарскае слова |
|---|---|
| поўны | толлы |
| пра, пра яго | онынъ ичунь |
| праблема | проблема, месле |
| права ( наз. ) | акъкы, укъукъ |
| правесці | кетирмек, озгъармакъ |
| праграма | программа |
| прадаць | сатмакъ |
| прадпрыемства | ишхане |
| прадстаўнік | векиль |
| прадуктыўнасць | семерли |
| прадукцыя | махсул |
| праз | ичинден |
| прайсці | кечмек |
| прамысловасць | санаат |
| прамысловы | санаи |
| прапасці | джойылмакъ |
| правіць | ел костермек, айдамакъ |
| прасіць | истемек |
| праўда | акъыкъат, догъру |
| праходзіць | кечмек |
| праца | иш |
| працаваць | чалышмакъ, ишлемек |
| працоўны ( наз. ) | ишчилер |
| працоўны ( прым. ) | ишчи |
| працэнт | фаиз |
| працэс | процесс |
| проста | саде |
| пры, пры ім | онынъ янында |
| прывесці | кетирмек |
| прывезці | кетирмек |
| прыгожы | дульбер, гизель |
| прыехаць | кельмек |
| прыйсці | кельмек |
| прыйсціся | вакъыти кельди |

| беларускае слова | крымскататарскае слова |
|---|---|
| прыклад, даваць прыклад | орнек, орнек олмакъ |
| прылящець | учуп кельмек |
| прымаць | къабул этмек |
| прынесці | кетирмек |
| прынятьі | къабул этильген |
| прыняць | алмакъ, къабул этмек |
| прыходзіць | келе |
| прычына | себеб |
| прэмія | бахшыш |
| птушка | къуш |
| пункт | нокта |
| пусціць | джебермек |
| пшаніца | богдай |
| пытанне | суаль |
| пытацца | сорамакъ |
| пяты ( ліч. ) | бешинджи |
| пяцігодка | беш йыллыкъ |
| пяць | беш |
| пяцьдзесят | элли |

---

Бог не цяля, бачыць круцяля. Аллах-ким джан авурткъанны коре.

Колькі робіш, столькі вучышся. Омуринъи сонъынадже окъы.

Калі улез у дугу, не кажы "не магу". Екильген сонъ — агыр деме.

Ведай, каток, свой куток. Атылып турма, озюнъи еринъи биль.

Гультай не чалавек, балбатун не гаспадар. Дембельден адам олмаз, чокъ махтангъандан — байолмаз.

---

Адбор беларускіх слоу для беларуска-крымскататарскага слоуніка запазычаны з "Частотнага слоуніка беларускай мовы", які склалі Н.С.Мажэйка і А.Я.Супрун. Кніга выдана у Менску выдавецтвам БДУ у 1982 ( старонкі 220 — 254 ).

Беларускія прыказкі і прымаукі запазычаны з кнігі З.Ф.Санько "Малы руска-беларускі слоунік прыказак, прымавак і фразем", Мн., 1991.

## КРЫХУ ПРА САМАГА ЗНАКАМІТАГА

Большасць людзей, якія чытаюць вершы, сярод самых знакамітых паэтаў згадаюць Габдулу Тукая і Мусу Джаліля. Здарылася так, што "Байрам" атрымаў лісты ад нашых чытачоў, у якіх змешчаны вершы Мусы Джаліля. Мы іх перадрукуем, а заадно і кароткі, але вельмі грунтоўны артыкул пра Джаліля, які надрукаваў у чацвёртым томе "Беларускай Савецкай Энцыклапедыі" член Саюза пісьменнікаў Беларусі, лаўрэат дзяржаўнай прэміі Беларусі, кандыдат філалагічных навук Іван Саламевіч.

ДЖАЛІЛЬ ( Д ж а л і л а ў ) Муса Мустафіевіч ( 15.2.1906, в. Мустафа Арэнбургскай губ. — 25.8.1944 ), татарскі савецкі паэт. Герой Сав.Саюза ( 1956 ). Чл.КПСС з 1929. Сын селяніна. Скончыў Маск. ун-т ( 1931 ). У 1920 — 27 на камсамольскай рабоце. Працаваў рэдактарам тат. дзіцячых часопісаў, супрацоўнічаў у газетах. З 1934 узначальваў літ. аддзел тат. опернай студыі пры Маск. дзярж. кансерваторыі, з 1938 — літ. частку Тат. опернага т-ра ( з 1953 імя Мусы Джаліля ). Напісаў некалькі оперных лібрэта ( найлепшае — "Залатавалосая", 1941, Дзярж. прэмія СССР 1948 ). У 1939 — 41 адказны сакратар Саюза пісьменнікаў Тат. АССР. З 1941 у Сав.Арміі. 26.6.1942 цяжка паранены трапіў у палон. За ўдзел у падпольнай антыфаш. арг-цыі, якую стварыў у канцлагеры, пакараны смерцю ў ваен. турме Шпандаў ( Берлін ). Друкавацца пачаў у 1919. Радасць стваральнай працы, магутны поступ маладой Сав.Рэспублікі паказаў у першым зб. вершаў і паэм "Мы ідзём!" ( 1925 ). Аўтар зб. "Таварышу" ( 1929 ), "Ардэнаносныя мільёны" ( 1934 ), "Клятва артылерыста" ( 1942 ), "Лісты з акопа" ( на рускай мове, 1944 ). У 2-й пал. 30-х г. напісаў паэмы "Джыган", "Дырэктар і сонца", "Джым", "Пісьманосец", насычаныя пачуццём гордасці за чалавека-творцу, будаўніка новага свету. Вяршыня творчасці Дж. — напісаны ў 1942 — 43 у Маабіцкай турме цыкл вершаў "Маабіцкі сшытак" ( Ленінская прэмія 1957 ). У ім ярка выявілася вера ў перамогу сав. народа над фаш. захопнікамі. На бел. мову творы Дж. пераклалі М.Аўрамчык, М.Калачынскі, П.Прыходзька, Я. Семяжон.

Пад артыкулам багатая бібліяграфія, вядомая да 1971 г., калі быў напісаны гэты артыкул. Цяпер, несумненна, ёсць і яшчэ нямала даследаванняў пра Мусу Джаліля. А цяпер чытайце два пераклады верша Мусы Джаліля, напісанага ў турме напярэдадні 1944 г.

Кароткі урывак з ліста, які даслаў у "Байрам" Наіль Ісмаілавіч Камалітдзінаў, геолаг-геафізік, казанскі татарын.

" ... Хочу также предложить в квартальник свой перевод одного стихотворения Джалиля. Пока он известен лишь в переводе Я.Френкеля, который работал по подстрочнику, написанному его женой, татаркой по национальности. Может быть, перевод очень яркий, вроде вакхической песни, но очень далек от оригинала ..."

# ЯҢА ЕЛ ТЕЛӘКЛӘРЕ

Хәмер, шәраб безгә булмас инде,
Яшебезнең кайнар тамчысын
Бокалларга салып күтәрербез,
Шуның белән күңел ачылсын.

Шул яшь белән 43 нче ел
Алып китсен йөрәк ярасын !
Каршы алыйк якты өмит белән,
Бәхет, шатлык белән яңасын !

Син китәсең, безне бикләп,
Хуш, иске ел-көмеш сакаллы !
Мин күтәрәм татлы шәраб итеп
Өмит яшем тутлы бокалны.

Җитәр инде, бик күп акты каннар,
Күп киселде якты гомерләр.
Яңа елда, тыныш газаплардан,
Күтәрелсен иде күңелләр.

Бу яңа ел безгә татлы ирек
Һәм бәхетле яшәү китерсен.
Ул салдырсын кулдан богауларны
Һәм күзләрдән яшьне киптерсен.

Алып килсен җину куанычын,
Дуслар белән күрешү шатлыгын,
Нуры белән юып үпкәләрне,
Ютәлләрнең алсын актыгын !

Шушы елда, дустым, житәкләшеп
Кайтсак иде туган йортларга.
Балаларны, хатын, туганнарны
Данлы җиңү белән котларга.

Шушы елда безгә туган өйдә
Коймак пешсә иде учакта.
Елый-елый хатын-балаларны
Алсак иде кайнар кочакка.

Һәм озатсак иде без ул елны
Бәхет, шатлык җиңү турында
Язган шигырь белән, шәраб эчеп,
Мул табында, өстәл кырында.

## НОВОГОДНИЕ ПОЖЕЛАНИЯ
( перевод Я.Френкеля )

Здесь нет вина. Так пусть напитком
Нам служит наших слез вино !
Нальем ! У нас его с избытком.
Сердца насквозь прожжет оно.
Быть может, с горечью и солью
И боль сердечных ран пройдет...
Нальем ! Так пусть же с этой болью
Уходит сорок третий год !

Уходишь, борода седая,
Навеки землю покидая ?
Ты крепко запер нас в подвал.
Прощай ! На счастье уповая,
Я поднимаю мой бокал.
Довольно жизням обрываться !
Довольно крови утекло !
Пусть наши муки утолятся !
Пусть станет на душе светло !

Да принесет грядущий Новый
Свободу сладкую для нас !
Да снимет с наших рук оковы !
Да вытрет слезы с наших глаз !
Согрев целебными лучами,
Тюремный кашель унесет !
И в час победы пусть с друзьями
Соединит нас Новый год !

Пусть будут жаркие объятья
И слезы счастья на очах !
Пускай в честь нас печет оладьи
В родном дому родной очаг !
Да встретятся жена и дети
С любимым мужем и отцом !
И чтобы в радостной беседе,
Стихи читая о победе
И запивая их вином,
Истекший год мы провожали
И наступающий встречали
За пышным праздничным столом !

## НОВОГОДНИЕ ПОЖЕЛАНИЯ

( перевод Н.Камалетдинова )

Нам вина уже не знать, пожалуй,
Капель слез напиток нехмельной
Соберем сейчас в свои бокалы,
Выпьем и утешимся с тобой.
Может год ушедший 43-й
Сердца боль с собою унесет !
С верой в счастье и с надеждой встретим
Мы сейчас с тобою Новый год !
Осталяет нас в тюрьме сегодня
Старый год с седою бородой,
Но бокалы в тосте новогоднем
Мы в темнице подняли с тобой !
Хватит, очень много лилось крови,
Многих судеб оборвалась нить.
Верю, что избавившись от боли,
Мы душой сумеем воспарить.
Пусть несет нам Новый год свободу,
Счастье вольной жизни пусть он даст.
Пусть он снимет с наших рук оковы
И осушит слезы наших глаз.
Пусть несет он свет победы нашей,
Соберет веселый круг друзей.
Пусть уймет он наш тюремный кашель
Теплотой сердечною своей.
Я б хотел, чтоб мы с тобой вернулись
К нашим женам, детям в дом родной,
Чтобы счастьем светлым обернулось
То, что было горем и бедой.
Слез не пряча, в крепкие объятья
Заключить бы нам свою родню,
Пусть бы пек тогда свои оладьи
Наш очаг по десять раз на дню.
И вином огнистым проводить бы
Нам тот год в кругу своих друзей,
И стихи хорошие сложить бы
Нам о счастье светлом этих дней.

## СЯМЕЙНАЕ ВЫХАВАННЕ. КАЛЫХАНКІ

Даўней існаваў добры звычай, цяпер амаль забыты: дзецям спявалі калыханкі. Калыханка наладжвае сувязь паміж маці і дзіцем, а з дапамогай маці немаўлятка ўступае ў першыя кантакты з сусветам. Кожная маці адданая свайму дзіцяці і хоча захаваць блізасць з ім на ўсё жыццё. Але не кожная ведае, што ўжо з першых дзён дзіця і маці звязаны не толькі кроўна, не толькі інстынктам, пачуццём удзячнасці, страху, абароны; але яшчэ і асабістым густам, які вызначае іх далейшую сувязь.

Ва ўсіх народаў звычайна ўсё лепшае закладвалася ў калыханкі. У калыханцы кожнае слова — запаветнае. Яно пераходзіла з пакалення ў пакаленне, з веку ў век, у паветры не таяла. Кожны выканаўца ўносіць сваё пачуцці, новыя паэтычныя вобразы. Для гэтага не абавязкова мець вялікія музыкальныя здольнасці. Спяванне калыханак — гэта перш за ўсе духоўнае выхаванне. Без такога выхавання "только шум будет доступен духу невежды. Песня водопада, или реки, или океана будет лишь ревом. Ветер не принесет мелодии и не зазвенит в лесах торжественным гимном. Лучшие гармонии пропадут для уха неоткрытого." ( з вучэння "Жывая этыка" ). Кладучы дзіця спаць, спакойным, лагодным голасам праспявайце ці "раскажыце" ў меладычным рытме калыханку. Калыханка наблізіць да вас дзіця. Песня — выпрабаваны сродак суцяшэння немаўляці перад сном, стварэння сістэмы спакою, утульнасці, што вельмі важна.

Дзіця не разумее слоў, але яно ўспрымае інтанацыю, вобраз слова, вобраз дабрыні, клопату, ласкі, пяшчоты, бо калыханка заўсёды пяшчотная. Неадрыўна ад калыханкі і ласкавая размова з дзіцем. Дарослыя звяртаюцца да дзіцяці з першых дзён нараджэння. Прамаўляюць да яго нават тады, калі дзіця знаходзіцца яшчэ ў чэраве маці. Навука і вопыт людзей пацвярджаюць дзейснасць такіх размоў. І калі цяжарная маці і бацька размаўлялі загадзя з дзіцем, уключалі ў пакоі спакойную класічную музыку, прыкладвалі да жывата маці свае далоні і перадавалі праз яе сваё цяпло — усё гэта ўспрымала дзіця і пасля нараджэння знаходзілася побач з ужо знаёмым яму. У выніку — станоўчыя эмоцыі дзіцяці.

Калыханкі, спакойная і пяшчотная размова — гэта і найлепшы сродак дачынення дзіцяці да роднай мовы. Большасць татараў на Беларусі роднай мовай лічаць беларускую, але кожная маці можа вывучыць маленькую калыханку ці песеньку і некаторыя словы на казанскататарскай ці крымскататарскай мове, хоць бы такія:

| беларускае слова | крымскататарскае слова | казанскататарскае слова |
|---|---|---|
| дзіця | балачыкъ | бала |
| дзяўчынка | къыз | кыз бала |
| дачка | къызым | кыз |
| хлопчык | огъланчыкъ | малай |
| сын | огълум | ул |
| мама | ана | әни |
| тата | баба | әти |
| бабулька | бита | әби |
| дзядуля | къартбаба | бабай |
| цёця | тизе | апам |
| дзядзька | агъа | абый |

Незнаёмыя словы, іх гучанне добра успрымаюцца, калі іх спяваюць знаёмым голасам, бо голас маці, яе аблічча, ласка маюць канкрэтны вобраз. Калыханка утварае першыя зносіны паміж дарослым і дзіцем сродкамі мастацтва. І самае галоўнае: калыханка — гэта святасць, яна звязана з самымі лепшымі і высокімі пачуццямі. Святой з"яўляецца і родная мова. І зусім не страшна, што дзеці не разумеюць сэнс слова, але яны пачуюць гук, музыку роднага слова, і такім чынам гучанне роднага слова, роднай мовы будзе назаўсёды у іх закадзіравана. Нават калі чалавек пакіне сваю радзіму, то пры сустрэчы з сваімі суплямённікамі калыханкі абудзяць у яго душы успамін пра дзяцінства і самыя лепшыя пачуцці, звязаныя з родным, сваім. Гэта будзе адным з момантаў ужо свядомай сувязі са сваімі вытокамі. Гэтую сувязь і пачуцці чалавек перадасць сваім нашчадкам і кола не будзе разарвана.

У гэтым нумары мы змяшчаем калыханку, якую напісаў Муса Джаліль. Спадабаўся нам урывак верша гэтага ж паэта "Зоркі". Спадзяемся, што у наступным нумары мы атрымаем ад казанскіх татар гэтыя паэтычныя радкі Джаліля на татарскай мове, падрадковы пераклад ( у нас хто-небудзь перакладзе на беларускую мову ) і ноты, бо не можа быць, каб на такія цудоўныя словы ніхто не напісаў музыку.

Вершы Мусы Джаліля. Пераклад на рускую мову Ю.Кушака

КОЛЫБЕЛЬНАЯ ДОЧЕРИ

Элли-бэлли, озорница,
Пусть тебе спокойно спится,
Звездочка моя, певунья,
Птица счастья, песня-птица !

Час придет — и эта песня
Полетит над всей страною,
В синем-синем поднебесье
Станет звездочка звездою.

Элли-бэлли, спи, дочурка,
За день очень ты устала,
Дремлет сад, где ты играла.
Спишь ли, звездочка моя ?

Элли-бэлли-бэлли-бэу,
Элли-бэлли-бэлли-бэу ...
1938 г.

ЗВЕЗДЫ

В небе тихо. Ночь ясна.
Ничего, что поздно, —
Мне не спится. Не до сна.
Я считаю звезды.

Солнце спряталось в леса.
Скрылся день куда-то.
Остается полоса
Летнего заката.

Укрывает землю ночь
Синим покрывалом.
Добрых снов желает ночь
всем глазам усталым.

1941 г.

## Г Ө Л Җ А М А Л — Г У Л Ь Д Ж А М А Л

Татар халык җыры — Татарская народная песня



Шәмдалләрдә гена утлар яна,
Гөлҗамал,
Житкән кызлар киндер җеп эрлиләр.
Энҗе дә мәрҗән кызларның кул бовы,
Авыр җан сөйгәннәрнең булмавы.

Кинди генә егеткә барырбыз,
дип, Гөлҗамал,
Колактан колакка алар сөйлиләр.
Энҗе дә мәрҗән кызларның күп бавы,
Авыр җан сөйгәннәрнең булмавы.

Гульджамал — здаўна папулярнае дзявочае імя ў казанскіх татар. Мадзіна Абязава зрабіла для "Байрама" вольны пераклад народнай татарскай песні. Папрасіце знаёмага музыканта, каб выканаў гэту песню на інструменце, прэспявайце, вывучыце некалькі радкоў на памяць.

Сёння, заўтра і яшчэ праз многа-многа гадоў ёсць і будзе праблема: дзе той хлопец, дзе тая дзяўчына, з кім пайсці ў жыццё, стварыць сям"ю, нарадзіць і выгадаваць дзетак ? Дзе той суджаны, як з ім сустрэцца ?

У наступным нумары, верагодна, будзе змешчаны адрас, нумар тэлефона службы знаёмстваў маладых і не вельмі маладых людзей, якія жадаюць стварыць мусульманскую сям"ю.

А пакуль што знаёмцеся са зместам песні, вучыце словы, а калі лянота вучыць словы, то і ніякая сям"я вас, відаць, не цікавіць. Але спадзяемся на добрае.

Агеньчыкі блішчаць у хаце Гульджамал —
прыйшлі дзяўчаты прасці кужаль.
На іх руках бранзалеты з перлаў і гранатаў,
але вельмі сумна — няма каханых.
За каго ж мы выйдзем замуж, Гульджамал ? —
пытаюць у яе дзяўчаты.
Хоць з перлаў і гранатаў на іх руках бранзалеты,
але вельмі сумна — няма каханых...

## ТАТАРСКАЯ КУХНЯ. АЛАДКІ І БЛІНЫ

А л а д к і з п р э с н а г а ц е с т а пякуць, калі трэба хутка прыгатаваць сняданак. Аладкі можна есці са смятанай, маслам, варэннем, джэмам.

У місу памерам 2 — 3 літры упускаюць яйкі, кладуць цукар і старанна разбоўтваюць. Ліюць малако ці смятанку, кладуць соль, соду, пшанічную муку, замешваюць і пякуць аладкі. Цеста можа быць замяшана і на кіслым малаку. Аладкі смажаць з двух бакоў на патэльні у алею, масле, лою да слабага паружавення.

На 0,5 кг пшанічнай мукі бяруць 3 шклянкі малака ці смятанкі, 2 — 3 яйкі, 1 — 2 сталовыя лыжкі цукру, 1/4 чайнай лыжачкі спажыўной соды, масла, алей, лой і соль.

Б л і н ы, разліваныя бліны, пякуць з цеста, радзейшага чым на аладкі. Можа быць драждживое ці прэснае цеста. У драждживое цеста для бліноў цукру і яец кладуць больш, чым у цеста для аладкаў. Прэснае цеста для бліноў замешваецца толькі на малаку без вады. Іншыя прадукты кладуць у той жа колькасці, што і у цеста для аладкаў, толькі соды трэба яшчэ менш.

Разагрэтую патэльню шмаруюць алеем, палонікам бяруць і ліюць цеста і даюць яму расцячыся па ўсей патэльні роўным тонкім слоем. Цёплыя бліны шмаруюць маслам, складаюць у чатыры столкі і падаюць на стол у плытkіх талерках.

У бліны можна загарнуць вараныя абабраныя яйкі, твораг, сечанае падсмажанае мяса. Смачныя такія бліны са смятанай, варэннем, джэмам.

---

Заувага. Не забывайце сказаць гаспадыні дзякуй за сняданак, абед, падвячорак і вячэру. Ніколі не гаварыце, што ваша мама, бабуля, сястра, цёця, жонка або суседка гатуюць яшчэ смачней. Лепш скажыце, што ніколі не елі смачнейшай стравы, дык можа і самі сябе угаворыце, што і сапраўды так.

ЗМЕСТ

# طاعة الله طاعة الوالد

На вокладцы: ТА-АТУ АЛЛАГІ ТА-АТУ ВАЛІДЫ.
БУДЗЬ ПАКОРНЫМ АЛЛАГУ, БУДЗЬ
ПАСЛУШНЫМ БАЦЬКУ.

Рэдактарская група: І.Александровіч, Р.Александровіч,
В.Садыкава, Г.Фатыхава, Е.Фешчанка.

Сродкі на выданне "Байрама" ахвяравалі спадары
В.Станкевіч ( Германія ) і П.Сутэр ( Швейцарыя )

БАЙРАМ

Татары на зямлі Беларусі

Квартальнік згуртавання татарау-мусульман на Беларусі
"Аль-Кітаб"

№ I — 2. 1993

Надрукавана у Навагрудку